PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (1958) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 21 ЛІСТАПАДА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ГАНЧАРСТВА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

На Беласточчыне народнае ганчарства пратрывала па сённяшні дзень, але вырабы свае ў большасці прызначае яно на патрэбы жыхароў гарадоў. Кераміка з Беласточчыны вызначаецца невялікай разнастайнасцю формы і даволі беднымі ўпрыгожаннямі. Яе характэрнай рысай з'яўляецца прастата, а галоўнай вартасцю -- высакароднасць форм "сівых" гаршкоў і гладышак з далікатна глянцаваным арнаментам. Гэтая кераміка мае многа супольных рыс з чорнаглянцаванай керамікай Беларусі.

Гліна, якая ўжываецца да вырабу керамікі, мае розныя сумесі, напрыклад, вокісы металаў, пясок і іншыя рэчывы. У залежнасці ад колькасці вокісаў жалеза пры дастатковым паступленні паветра колер вырабаў пасля абпальвання можа набыць розныя адценні — ад чырвонага да чырвона-бурага. Спалучэнні кальцыю прыдаюць пасля абпальвання крэмавы або жаўтаваты колеры.

Не кожная гліна падыходзіць да вырабу паліванага посуду. У вёсцы Лука (Нараўчанская гміна) гліну на чорнаглянцаваныя пасудзіны ("сівакі") капалі паблізу, але на паліваныя — прывозілі з адлеглага на 16 кіламетраў Міхалова. Лучанская гліна была надта "тлустая", і да яе дабаўлялі "худую" гліну, пясок, рачны мул. Да гліны, прызначанай на посуд, у якім варылі, дадавалі жвір або перапалены і дробна патоўчаны каменны парашок.

У некаторых асяродках ганчарскія вырабы сушылі на сонцы, але трэба было іх паварочваць, каб сохлі раўнамерна. Падсушаны посуд перад абпальваннем "насіва", глянцавалі каменем або рогам, каб аздобіць знешнюю паверхню.

Для абпальвання вырабы ў горнах ставілі такім спосабам, што ў большыя памяшчалі меншыя пасудзіны, а ў іх штораз меншыя, аж да самага запаўнення горна. Горны будавалі ўнутры майстэрняў (Сямяцічы, Супрасль), у павецях каля іх (Кляшчэлі, Лука, Чорная Вёска, Зубры, Сушча) або ў адкрытым полі, укапаныя ў зямлю (Грыневічы-Вялікія).

Чорную (сівую) кераміку атрымоўвалі асаблівым спосабам абпальвання, калі ў канчатковай фазе дадавалі даволі сухое смалістае дрэва і закрывалі адтуліны ў горне. Дзякуючы таму, што не паступала паветра і кісларод з вокісу жалеза рэдуцыраваўся, магла атрымацца кераміка ад попельнага колеру па чорны.

Кераміка ў колерах ад жоўтага па чырвоны — найбольш прымітыўная. Да яе аздаблення выкарыстоўвалі паліву, якую рабілі з высакароднай белай або каляровай глінкі, якой водным растворам на высушаны посуд наносілі кальцавыя лініі пры дапамозе пэндзля або гусінага пяра.

Да II сусветнай вайны ў Луцэ празрыстую паліву рабілі з волава, якое плавілі ў чыгуне і мяшалі лыжкай да таго часу, ажно спаліцца яно на парашок.

У залежнасці ад гатунку гліны пасля абпальвання атрымоўвалі паліву з адценнямі ад ясна-жоўтага да аранжава-чырвонага колераў. Каляровую паліву атрымоўвалі, дадаючы ў празрыстую паліву паленую медзь (вокіс медзі), вокіс марганцу. Такім чынам атрымоўвалі зялёны, буры і белы колеры.



*Так выглядаў кірмаш амаль у кожным мястэчку Беласточчыны.*

На Беласточчыне няма аздоб, характэрных для цэхавага рамяства з іншых рэгіёнаў Польшчы, як накладванне адціснутых у формах элементаў, аздоб, выкананых штэмпельнай тэхнікай, гравіраваннем з маляваннем і іншых. Няма таксама палівання цэлай паверхні посуду, разнастайных колераў палівы, наклейвання колаў, прымянення палівы ў плямы. Вельмі рэдка рабілі раслінныя ўпрыгожванні і ніколі не аздаблялі выявамі птушак.

Вырабы аздаблялі простымі, дугападобнымі, спіральнымі лініямі і геаметрычным арнаментам, якім пакрывалі цэлую паверхню або частку посуду. Даўні арнамент беластоцкай чорнай (сівой) керамікі мае супольныя рысы з ганчарскімі вырабамі з Беларусі і Люблiншчыны.

Формы пасудзін вынікаюць з іх практычнага прымянення. Найстарэйшую гісторыю мае посуд без вухаў з вузейшым ад горла дном, які выкарыстоўваўся для гатавання ежы ў хлебнай печы або на адкрытым вогнішчы.

Ежу ў поле насілі ў дваянах. Былі гэта два аднолькавыя збанкі, злучаныя паскамі гліны. У сярэдняй частцы было ў іх круглае або авальнае вуха, за якое неслі дваян. Часам выраблялі таксама траяны. Зараз такія вырабы выконваюць выключна дэкаратыўную функцыю.

Для спажывання стравы вырабляліся рознай велічыні міскі, між іншым, у Чорнай-Касцельнай і Луцэ. Разнавіднасцю місак з'яўляецца "макотра", або інакш "верцеха", якая служыла да расцірання маку і магла выкарыстоўвацца ў іншых мэтах. Сценкі яе былі вышэйшыя, чым у місках.

Для захоўвання грыбоў, варэння з ягад, тлушчу, заквашвання агуркоў служылі слоі рознай велічыні і ёмкасці.

Збанкі мелі дно і горла аднолькавыя. Былі гэта вырабы з вухам і дзюбкай рознай велічыні. У іх насілі і захоўвалі вадкія рэчывы, найчасцей малако і ваду. Брушка ў іх было стройнае, высокае.

Падобныя да збанкоў, але без вухаў былі так званыя "гладышкі" або „гладункі", якія галоўным чынам служаць для захоўвання малака. Так называюць часта таксама пасудзіны з вухам, але без дзюбкі.

Выраблялiся яшчэ кубкі, маслабойкі, вазоны, пасудзіны для аддзялення смятаны, бунькі, жалабкі, у якіх пяклі мяса, падсвечнікі.

Ганчары выконвалі таксама гліняныя цацкі. У Чорнай Вёсцы Касцельнай выраблялі аздобленыя птушкі-свісткі, якія выціскаліся ў формах. Зараз зязюлі-свісткі выпальваюцца на чорны (сівы) колер. Цацкі на продаж рабілі таксама ў Бранску, Грыневічах-Вялікіх і Супраслі.

Зараз некаторыя ганчары вырабляюць кераміку, якая мае высокія мастацкія вартасці. Іх вырабы карыстаюцца папулярнасцю ў гарадскіх пакупнікоў і выконваюць выключна дэкаратыўную функцыю.

Варта адзначыць, што шматлікія ганчары, ведаючы розныя ўласцівасці гліны, выкарыстоўвалі яе для лячэння людзей і жывёл. Ачышчаную і выробленую гліну размешвалі са спіртам, воцатам або кіслым малаком і прыкладалі на пухліну або вывіх.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



*А так калісьці таргавалі на рынку ў Саколцы.*

## ФІЛОЛАГ У ПАЛІЧНАЙ

У пачатковую школу ў Палічнай ходзяць дзеці з трох гмін: Дубічы-Царкоўныя, Кляшчэлі і Чаромха. Пераважаюць вучні з Кляшчэлеўскай гміны — калі пачатковыя школы пяройmуць гміны, школу ў Палічнай несумненна глынуць Кляшчэлі. Спяшацца з гэтым не будзем, заўважыў бурмістр Кляшчэляў А. Сяліцкі, хіба што будзем пад прымусам, а такога пакуль няма.

Усіх вучняў у школе — 47. Школа невялікая, сказала дырэктар Вера Філіповіч, як то на вёсцы. Сам будынак быў, мусіць, роблены з думкай пра абору. Калі я тут пачынала сваю працу, дадала дырэктар, было больш за сотню вучняў. Але, што ж, сёлета ў Палічнай нарадзілася ўсяго адно дзіця, а праз год у школу прыйдзе двое дзяцей. Заняткі ў школе вядзе 8 настаўнікаў на поўных штатах і катэхетка на паўстаўкі. Калі ідзе пра першапачатковае назначэнне будынка школы, то нешта ў гэтым мусіцуь быць — амаль ідэнтычны школьны будынак стаіць у Гародчыне; калі заняткі ў ім перапыніліся, у народ таксама пайшлі чуткі пра абору. А ў Кожыне, прыкладам, школу пераўтварылі ў турму, якая, у адрозненні ад аборы, некаторы час выконвала сваю ролю.

Беларускай мовы вучыць у Палічнай Ірэна Тамашук — студэнтка пятага курса Беларускай філалогіі ў Варшаве. Гэта, здаецца, што нешматлікі выпадак, калі ў вясковай школе выкладаннем беларускай мовы займаецца кампетэнтная асоба. Наогул на вёсцы беларуская мова трактуецца настаўнікамі як дапаўненне да поўнага штату спецыялістам фізічнай культуры, біялогіі, фізікі... Ірэна Тамашук мае агулам 12 гадзін беларускай мовы, а да поўнага штату дапаўняе пачатковым навучаннем.

Беларускай мовы вучыцца ў Палічнай 32 дзяцей. Чаму не ўсе? Тут пачынаецца пералік больш-менш вядомых прычын — некаторыя дзеці маюць клопат з іншымі прадметамі, асяроддзе неаднароднае... Аднак пасля гутаркі з дзецьмі, якія вывучаюць беларускую мову трэба сцвердзіць, што іхняя настаўніца сур'ёзна ставіцца да сваіх абавязкаў — дзеці гаварылі вершы, заспявалі песню ды расказвалі што як правёў канікулы; выказванне думак на беларускай мове адбывалася без асаблівай натугі. Сама школа, заўважыла дырэктар, не належыць да часта візітаваных, а і журналіст заглянуў да іх упершыню. Трэба тут даць у гонар дырэктара школы, што і яна сама свабодна гаворыць на беларускай літаратурнай мове, нават выпраўляе памылкі, калі ейныя калегі хочуць таксама нешта па-беларуску сказаць.

Штогод беларускую філалогію канчае пару асоб — знайсці сабе працу далёка не кожны здолее. Найчасцей швэндаюцца беспрацоўнымі. Там, дзе маглі б вучыць таго, чаго самі навучыліся — найчасцей няма ім месца, беларуская мова „распісаная" паміж засядзелымі настаўнікамі. А будзе, здаецца, яшчэ горай — калі павялічаць настаўнікам колькасць гадзін, можна спадзявацца, што школы пачнуць сілком арганізаваць навучанне беларускай мовы, бо будзе гэта адзіная магчымасць выратавання штатаў. Дадатковыя гадзіны падзеляць між сабою ўжо працуючыя настаўнікі.

А філолагі з вышэйшай адукацыяй? Тут усё ясна, кепскі для іх ідзе час.

**А. МАКСІМЮК**

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ (5)

### ПОМНІКІ СТАРАДАЎНАСЦІ

Назва мясцовасці выводзіцца ад ракі Нарвы, якую (так запісана ў пісьмовых крыніцах) у 1251 годзе называлі Наров, у 1282 годзе -- Нарэфф, у 1290 годзе -- Нара, а ў 1300 годзе -- Нарэ. Жыхары вёскі Макаўка ды суседняй вёскі Ваські калісьці гаварылі, што горад Нарва ляжаў даўней у сённяшняй Лядскай пушчы, аб чым сведчаць у пушчы брукаваныя дарогі і старыя могільнікі.

Паселішча Нарва было заснавана троцкім ваяводам Альбрэхтам Гаштольдам, па загаду караля польскага і вялікага князя літоўскага Зыгмунта I Старога. Статус горада па магдэбурскім праве быў прызнаны Нарве ў 1529 годзе. Правы на самакіраванне пацвердзілі каралі Зыгмунт Аўгуст у 1555 годзе і Стэфан Баторый у 1576 годзе, а далей -- чарговыя манархі.

Нарва была абдаравана аграмадным надзелам 150 валокаў зямлі, у тым ліку ва ўрочышчы Куляшова 115 валокаў. Гэты вялікі абшар лесу і багнаў цягнецца аж за масты на Куляшовых багнах да рэчкі Альшанкі (правага прытока Нарвы).

Мясцовыя жыхары займаліся вырошчваннем хмелю. Карміліся з працы ў навакольных лясах і са сплаву драўніны па рацэ Нарве. Між іншым пад Зэлізоўшчынай (урочышча каля Пашкоўшчыны) калісьці -- недзе менш-больш з 1560 года -- здабывалі балотную руду. Каля Ванева была ганчарня, а на рэчцы Руда -- млын у Рудцы, працаваў таксама фолюш. Побач Нарвы было тры млыны, у тым ліку адзін з фолюшам і з прасяной ступай. У Нарве былі цагельня і бровар.

У 1528 годзе ў Нарве каталіцкі ксёндз заснаваў школу для дзяцей і сам быў у ёй настаўнікам. Свайго часу наведаў яе польскі кароль Стэфан Баторый.

У 1807 годзе ў Нарве пражывала больш 400 чалавек, у 1885 годзе -- 1612, у 1921 годзе -- 963, у 1931 годзе -- 1301. У 1961 годзе Нарва налічвала 1200 жыхароў.

У Нараўскай гміне помнікамі старадаўнасці лічацца цэрквы ў Трасцянцы, Нарве, Ласінцы, Адрынках і ў Козліках, прыхадскі дом у Ласінцы, касцёл са званіцай ў Нарве.

Даўнейшыя хаты і іншыя будынкі сустрэць яшчэ можна ў вёсках Кутавая і Макаўка (назва вёскі ад ракі Макаўка) ды ў самой Нарве.

### КУЛЬТУРНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

У Нараўскай гміне існуе Гмінны асяродак культуры і трынаццаць вясковых святліцаў. Нараўскі асяродак культуры арганізоўвае дзесяць цыклічных культурных мерапрыемстваў у год, між іншым, конкурсы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, святкаванні важных гадавін, вечарыны, навагоднія ёлкі і балі.

Асяродак выдае мясцовую штомесячную газету "Nowiny z gminy". Рэдагуюць яе Ліля Хіліманюк і Ірэна Шастай. Круг яе чытачоў пастаянна пашыраецца. На яе старонках змяшчаюцца артыкулы, інтэрв'ю, допісы і занатоўкі на польскай і беларускай мовах.

У вёсцы Тынявічы Вялікія працуе фальклорны аматарскі калектыў "Тынявічанкі". Ансамбль дзейнічае з верасня 1980 года. Першым яго кіраўніком быў Мікалай Сыльвяструк, другім -- Ян Дудзіч (акардэаніст-самавук). Калектыў выконвае вясельныя, хрысцінныя і іншыя абрадныя песні, агулькі ды калядкі. У хоры спяваюць Валянціна Франкоўская, Ганна Хірко, Ганна Дудзіч, Вера Сегень, Валянціна Ваўранюк, Ніна і Марыя Ляўчук ды дзве Вольгі Свентахоўскія. У конкурсе "Беларуская песня-93" "Тынявічанкі" занялі другое месца.

Сёлета ў Нараўскім асяродку культуры заснавалі два дзіцячыя калектывы: вакальны і танцавальны. Вядуць іх выдатныя спецыялісты з Гродна -- інструктары Аляксандр Лойка і Віктар Старавойтаў. Яны працуюць таксама з вучнямі ў пачатковых школах у Крыўцы і ў Ласінцы. Дзіцячыя калектывы з Ласінкі і з Нарвы добра зарэкамендавалі сябе на элімінацыях конкурсу "Беларуская песня-93" для моладзі і дзяцей.

У Нараўскай гміне жывуць народныя творцы, якія займаюцца вышыўкай-гафтаваннем, ткацкай вытворчасцю, выплятаннем кошыкаў і карзін ды саламяных пляцёнак, карункавай вытворчасцю, разьбой па дрэву. Усіх іх пад трыццаць чалавек. Найбольш народных творцаў пражывае ў вёсках: Адрынкі, Макаўка, Янова, Ляхі, Трасцянка, Ванева, Пухлы і Козлікі. У Гайдукоўшчыне жыве народны паэт Андрэй Паскробка.

### ЯК ЧЫТАЮЦЬ У НАРВЕ

Гмінную публічную бібліятэку ў Нарве вядзе Ала Сяткоўская. Тут на кніжных паліцах -- 11,5 тысячы тамоў. Ёсць з чаго выбіраць -- нават для пераборлівых і самых патрабавальных. На паліцах стаяць таксама беларускія і рускія выданні. Сёлета купілі шмат новых кніжак, у тым ліку і кніжкі членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Усіх разам за 10 мільёнаў злотых.

Багата тут — як на ўмовы эканамічнага крызісу -- газет і часопісаў. Ажно 22 названні, у тым ліку чатыры штодзённыя. У чытальні ёсць "Ніва" і "Czasopis".

Бібліятэка мае каля чатырохсот верных чытачоў з Нарвы і навакольных вёсак: Адрынкі, Даратынка, Ванева, Макаўка, Рыбакі, Ляхі і Градочна. Асабліва многа чытаюць Эва, Анэта і Юстына Галіцкія, Галіна Каліноўская, Адам Харашэўскі, Яўген Харашкевіч. Сярод пастаянных чытачоў вылучаюцца Эва Зубрыцкая, Анна і Эва Чарнякевіч, Марцін Аврчук, Магда Карабкевіч ды Анна Альжбета і Адам Шарэйка. Для іх кніжка -- самае вялікае душэўнае багацце.

Нараўская гмінная бібліятэка мае свае філіялы ў Ласінцы (тут працуе Аліна Янцэвіч) і ў Трасцянцы (вядзе яго Аліцыя Станько), а таксама бібліятэчны пункт у школе ў Крыўцы.

У бібліятэцы ў Ласінцы да выбару чытачам 6200 кніжак (сярод іх таксама беларускія) і дванаццаць газет і часопісаў, у тым ліку і "Ніва". Па кніжкі наведваецца 172 чытачы з Ласінкі, Рэпіскаў, Кутавой, Навін, Кавелы, Катлоўкі, Гарадзіска, Прыбудкаў і Крыўца.

Найбольш чытаюць Анна Мінько, Ірэна Мінько, Бэата Мінько, Кацярына Юзвюк, Андрэй Раманюк, Васіль Раманюк, Ян Філіпюк, Эмілія Філіповіч і Ірэна Сухадола -- усе з Ласінкі ды Альжбета і Аляксандр Пашко з Катлоўкі, а таксама Ніна Раманюк з Рэпіскаў (Гайнаўская гміна).

*(Працяг будзе)*

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ




## БУДУ ПІСАЦЬ!

Бурныя палітычна-гаспадарчыя перамены апошніх гадоў ахапілі нашу краіну, кранулі кожнага з нас. На мяне яны так падзейнічалі, што забыў, на якім свеце я жыву! Ізаляваўся ад людзей, забыў сяброў. Закінуў „Ніву". Жыў толькі прафесійнай працай і сямейнымі праблемамі.

Нядаўна, будучы ў Беластоку захацелася мне раптам сустрэцца са сваім сябруком, Віталіем Лубам. Задумаў, зайшоў... У рэдакцыі сустрэў не толькі свайго сябра, сустрэў і іншых знаёмых: Марыю Федарук, Яўгенію Палоцкую, Міру Лукшу... Колькі ж гэта часу мінула ад апошніх нашых сустрэч? Гадзікаў з пяць, пэўна! А мо і больш.

Многа змянілася ў працы журналістаў, маіх калег. Пішучыя машынкі заступілі ім камп'ютэры. Усё па-іншаму...

— Мы зараз самастойныя, — гавораць дзяўчаты. — Ад БГКТ адлучыліся...

Тут я пачуў непрыемную гісторыю аб праведзенай „вайне" БГКТоўцаў з журналістамі „Нівы". Сумна і непрыемна робіцца чалавеку на душы, калі чуе такія словы. Ї верыць не хочацца, што такое магло здарыцца сярод нас, беларусаў.

Непрыкметна прайшоў час. Пара развітацца.

— А ты пішы, — паціскаючы руку гаворыць Віталій Луба. — З вашага боку ніхто не піша...

— Буду пісаць! — адказваю.

Ї слова стрымаю!

УЛ. СІДАРУК

## ШТО Я ДОБРАГА НАРАБІЎ

Шчыра дзякую за запрашэнне на з'езд карэспандэнтаў "Нівы". На жаль, не мог я прыехаць. Змог мяне грып. Сядзеў я ў хаце, ды быў думкамі з вамі.

І так сабе думаў: што я добрага нарабіў?! Як карэспандэнт сабе толькі ворагаў нажыў! Памятаеце, пісаў я пра грамадскую апеку ў Міхалоўскай гміне, як дапамагаюць багатым. Так, багатым, бо даюць таму, у каго ёсць, а таму, хто ледзь звязвае канец з канцом, таму з гміны -- фіга з макам! Пісаў я пра жанчыну, у якой хаце няма вады, то ёй сказалі: "Няхай вам Дзядзька Захар правядзе ваду!" Ну то я ім адказваю: "Я ўжо застары!" Няма грошай, каб ваду правесці, — на 10 метраў трубы. А на аўтобусны прыпынак, што быццам егіпецкую піраміду ставяць, грошы знайшліся!

ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР

# ... І "МАЛАНКА" Ў БЕРАЗОВЕ

Дзякуй Пану Прэзідэнту! Стараберазова наведала бельская "Маланка"! Перад выбарамі ў наш парламент. Хтосьці падумае: а што ж гэта такое? Хіба прэзідэнт задбаў пра гэта? Ну, не, даражэнькія, вядома! Гэта дзякуючы рашэнню прэзідэнта накont парламента. І кандыдаты ў новы Сейм ды Сенат пачалі шукаць сабе прыхільнікаў. Не адзін наведаў наша Беразова. Кожны лепш ад другога абяцаў, як то будзе ён старацца. Гэта заўсёды паўтараецца, ды сяляне не вельмі ў гэта ўсё вераць. Не раз ужо пераканаліся і памятаюць. А нас успамінаюць заўсёды перад выбарамі. А потым у парламенце, на жаль, з сялянскіх справаў не раз смех робяць.

І вось адзін з кандыдатаў у Сейм, Сяргей Лукашук, наведаў нашу вёску. Не сам да нас прыехаў, а са сваёй "Маланкай". Хаця ў сялян гэты дзень быў не лёгкі — якраз капанне — вечарам зала клуба запоўнілася беразоўцамі. Цікава, ці пайшлі б так грамадой, калі б канцэрт быў за грошы?.. Канцэрт вельмі спадабаўся. Потым яшчэ доўга мы ўспаміналі выступленне. Разам з "Маланкай" выступаў вядомы ўсім Яўген Чыквін, кандыдат у Сенат. Шкада, што ні С. Лукашук, ні Я. Чыквін не прайшлі ў выбарах.

Думаю: чаму беразоўцы не ўсе аддалі свае галасы на сваіх кандыдатаў? Рознае потым гаварылі ў вёсцы. А то тое, што яны толькі раз, перад выбарамі прыехалі: больш іх і не ўбачыш! А то: а што ж яны памогуць? Спяваюць прыгожа, а больш — што? А вось Цімашэвіч. Прэзентуецца прыемна. У тэлебачанні не раз выступаў. Такі то ўсё можа! І бачыце, і ён наведаў нас, і яшчэ абяцаў наведаць. Цікава, кажуць, ці наведае; ён цяпер у самых вярхах! Пажывем, паглядзім, тады і скажам. Думаю, што цяпер трэба, каб падумалі тыя, што на Цімашэвіча аддалі свае галасы і запыталіся: каго мы выбралі? А тых, каго не ведалі і ведаць не будуць! А тыя, каго выбралі, нашых клопатаў не ведалі, не ведаюць, і ведаць не будуць! Адкуль у іх мае быць цікавасць да нашых справаў? А, можа гэта і не нас, сялян, віна? Хто з беларускіх прадстаўнікоў ведаў нас да выбараў? Думаю, што ніхто. Каму патрэбныя сяляне з беларускіх вёсак Стараберазова ці Махнатага? Калі "што да чаго", тады нас успамінаюць. Трэба тут прыглядзецца справе і сказаць, хто ў гэтым вінаваты. Падумайце аб гэтым, спадары з галоўных беларускіх арганізацый! Часу ў нас цяпер досыць. Можам думаць, працаваць, пераконваць аж чатыры гады! Час бяжыць, не марнуйма яго!

ГРЫША МАРОЗ

# ЗАПРАШЭННЕ

„Orkiestra p. w. św. Mikołaja" zaprasza na III Festiwal Muzyki Ludowej „Mikołajki Folkowe", które odbędą się w dniach 10-12.XII.1993 w ACK UMCS „Chatka Żaka" w Lublinie.

W programie:

10.XII — „Scena otwarta", konkurs dla twórców muzyki inspirowanej folklorem.

11.XII — „Koncert gwiazd" — wśród czołowych zespołów folkowych wystąpią autentyczni muzycy ludowi.

12.XII — Warsztaty tańców huculskich, łemkowskich, cygańskich oraz przegląd filmów związanych z kulturą ludową.

Szczegółowych informacji udziela:
Komitet Organizacyjny
Festiwalu Muzyki Ludowej
„Mikołajki Folkowe-93"
ACK UMCS „Chatka Żaka"
ul. Radziszewskiego 16
20-031 Lublin
tel. 332-01 w. 14

# ПІСЬМЫ З ФЛАРЫДЫ

## (4)

Раздумваючы пра асаблівасці тутэйшага эмігранцкага побыту, мы не ўсведамляем сабе, што заходняя цывілізацыя ёсць спецыфічнай анамаліяй у маштабах свету. Тут і ў атлантычнай Еўропе ўсеўладны культ індывідуалізму. Разлік на самога сябе. Нікога не вінаваціш. Без асабістай удачы жыццё страчвае сэнс. Нараджаешся, каб памнажаць багацце. Пачуты жарт: не чытаем вершаў, бо хто ж заплаціць за згублены на іх час... Time is money (час — гэта грошы).

Чалавецтва на ўсходзе, поўдні і поўначы трывае ў духу, аднак жа, калектывізму. Скажу адназначней: па-за арэалам распаўсюджання пратэстанцтва. Непрыхільныя адносіны да тых, хто занадта прайшоў у грамадскія вярхі. У нас называюць гэта: польскае пекла. Няслушна, бо яно ўсюды, акрамя англа- і германамоўных краінаў ды часткова раманскіх, блізкіх менталітэтам. Спакойна, бяспечна адчуваем сябе, калі не вылучаемся ні заможнасцю, ані інтэлігентнасцю. Таму перамог камунізм у нашым староньні, і давялося Ельцыну ажно паліць па ім з артылерыі. За Одраю немец Маркс не меў шанцаў. Затое ў славянскай Маскве знаходзяцца гатовыя паміраць за яго ідэю роўнасці; у Пекіне і ў В'етнаме.

Развіццё — гэта няроўнасць. Стаячая вада — смуродная. Прагрэс ідзе крокамі адзінак, як мастацтва квітнее, дзякуючы талентам, а не графаманам.

Эміграну не растлумачыш тых універсальнасцяў. Усяму прычына яму... жыды і Крэмль. Зашмат уеліся ў косці бальшавікі, сваім антысялянствам і езуіцкай маральнасцю. Сібірам, расстрэламі. „Калхозамі". Амерыканскую тэлевізію глядзіць ён, як мая маці польскую: усё роўна аб чым, абы рухомыя абразкі. Пры тым, як правіла, антыкамуніст з яго. А гэта значыць, што не дэмакрат. Дрэнна пераносіць усялякую нязгоду. Усё праўдаю ягонай мусіць быць. Рыхтык як у заробленых сялянаў. Спрабуй ты запярэчыць такому ў чымнебудзь, адразу ворагам яму станеш! І то надоўга, калі не назаўсёды. Іншых эмігрантаў, чым у гадах маіх бацькоў, я не сустрэў. Мае равеснікі ўжо амерыканцамі.

Характар, псіхіка, — у працаўніка камунізму ідэнтычныя, як у камуняка; толькі мэты ў іх супрацьлеглыя. Той і той далёкія ад талерантнасці, пашаны асобы, адрозных поглядаў.

Заводзіць гаворку пра разгортванне эміграцыйнага жыцця ўспрымаю я як чорны жарт. Сама сутнасць выгнанніцтва зводзіцца да растварэння ў аўтахтоннай народнай стыхіі. У лепшым выпадку можа яно прыняць на сябе ролю не большую, чым успамагальную менавіта ў сваіх дачыненнях з бацькаўшчынай. Прыкладнае пытанне: чаму не існуе эміграцыя амерыканцаў. І наступнае: а які быў бы сэнс яе? Выснова адсюль адна: эміграцыя як прыкметная з'ява ёсць рэзультат горшага становішча нацыі, дзяржавы. Ніхто не ўцякае з дабра. Ад лепшага ў благое.

Беларус у Амерыцы хваліць Амерыку. Ён не можа іначай. Нават не дзеля грамадзянскай лаяльнасці або трывіяльнага падлізніцтва перад уладамі, якія далі яму прытулак ды жыццёвую будучыню. Справа куды прасцейшая: ён безупынна самаўпэўніваецца ў трапнасці ўласнага выбару. Вельмі людскае гэта імкненне.

Дыскусія або спрэчка з тыповым эмігрантам немагчымая яшчэ і па той прычыне, што ён у палеміцы з табою мае на ўвазе ўсё тое, што для цябе даўнымдаўно адышло ў мінулае, часта дакладна ўжо забытае табою, ці — па адноснай маладосці — зусім невядомае, непражытае. Найбольш з ім гутаркі пра смаркаты шавінізм у санацыйнай Польшчы ды ідыятызм прыйшоўшых — у трыццаць дзевятым — саветаў. Ты, праўда, гэта зразумееш, хоць, слухаючы ад яго пра адно і тое ж за снеданнем, абедам і вячэраю завозьмешся смутна пазяхаць і падумваць, як прычакаць канца гасціны, не апусціўшыся ў тупую меланхолію... Але не яго амерыканскія дзеці. Яны не сцерпяць і квадранса бацькавых паўіндыянскіх прыгодаў на дзікім славянскім усходзе; зараз паўстаюць дружна з-за стала, пасядаюць тлумна ў аўтамабілі, паімчаць да сваіх бізнесаў. Эмігрант, зрэшты, ведае: нудныя байкі ім усё гэта. У іх прысутнасці ён паводзіць сябе, на дзіва, цалкам нармальна, жыва і з актуальным гумарам. Таму камбінуй так, каб не заставацца з гаварліўцам самнасам, бо іначай цяжка пашкадуеш таго. Засуне ён тады пропаведзь, настальгічную, на столькі гадзінаў і на так банальным табе ўзроўні, што не паверыш уласным вушам; адхочацца бываць у Амерыцы! Яны амаль нічога не выпісваюць, а могуць жа за plus-minus аднадзённы даход атрымліваць квартальны асартымент беларускага друку. Поўны.

Камуністы верылі ў магію слова. Калі пра што не пісалі ў газетах або не згадвалі ў публічных прамовах, лічылася, — прынамсі афіцыйна, — што таго чагосьці, прамоўчанага, няма ў рэальнай рэчаіснасці. Адсюль гэта бярэцца ў эмігрантаў прэтэнзіі да „Нівы", чаму на яе старонках мала ўра-патрыятычных тэкстаў. Найлепей было б, калі б уся яна рабацілася клічамі тыпу „Жыве Беларусь!" Запыніла б, такім чынам, упадак нацыянальнасці ў Беластоцкім краі... На маё сустрэчнае запытанне, хто ж купляў бы гэткі манатонны часопіс, непаразумела вытрэшчваюцца ў мяне, быццам у нейкага беларусаеда, нечакана дэмаскаванага імі вось. Крыўда ў іх да Сэрцайка, да Астрона, да Гаспадыні, да „Ніўкі" і „Зоркі"... Усюды там павінна быць заядлае змаганне, а не рагатлівы анекдот, ці як згатаваць суп; як выйсці замуж або забаўляцца значэннем сноў.

Доўгая, марудная вячэра ў субтропіку. Учора тэмпература ўпала да дваццаці пяці; з раніцы пайшоў дробны, паркі дождж. Над домам, на сасне з буйнымі іголкамі ды шышкамі велічыні півоні, спеўна сакоча наш шпак; унізе кіпарысы, перацвілыя. П'ем чырвонае каліфарнійскае віно з кавалкамі лёду. Успамінаем — нейтральная тэма — зімы ў Беларусі, іарданскае свята ў студзені; пячэнне хлеба. Бульбяную кашу са скваркамі. Кішку. Галоўкамі квашаную капусту. І дамаўляемся, што ў пятніцу, на вікэнд, натушым бульбы з фларыдскай цыбуляю і якімсьці мясам. Пакуль што пераключаем тэлевізар з іспанамоўнага канала на васемнаццаты; хочам пачуць, ці напэўна зняў Ельцын варту ля маўзалея Леніна, і як вялікую армію зноў пасылаюць у Самалію (выслухалі прамову прэзідэнта Клінтана, непасрэдна з Белага Дома ў Вашынгтоне). Выказваюцца апазіцыйныя палітыкі, трох: амерыканец ірландскага паходжання, другі з італьянскім прозвішчам, а паміж імі абавязкова негр. Не дойдзеш: яны „за", ці не?

Амерыка простанароддзя безапеляцыйна верыць сваёй прапагандзе. Тут усё, што скажуць, ёсць навукова абгрунтаванае, а твары прапагандыстаў ззяюць бездыскусійнай пераконанасцю. Грэх сказаць такому: адчапіся ад мяне, чалавеча! Цяпер „янкі" кідаюць курыць і саліць; не так даўно смалілі цыгары, нават купаючыся ў ванне. Рак лёгкіх, рак кішкі, рак горла... Вінаваты папяросы. Гэта, вядома, temat zastępczy. Не будзеш жа лямантаваць пра забойчую атруту ад бензіну; не знішчыш жа сотні мільёнаў аўтамашынаў, з якіх не вылазіць увесь народ. Без матораў капцы Амерыцы!

У першы кантакт з гэтым кантынентам выносіш уражанне, што апынуўся ты ў той жа Еўропе, толькі за акіянам. Але, акажацца гэта прасцяцкай памылкай: Амерыка, пра якую мы думаем, шыбуе ў нейкі неўяўляльны нам свет цывілізацыі будучыні. Вядомая і пажаданая намі прамысловасць на працягу бліжэйшых пакаленняў будзе тут ужо анахранізмам. Усе тыя гуты, капальні, фабрыкі; вугаль, руды, нафта перастануць быць патрэбнымі для іх. Знікне традыцыйнае паняцце працы як чалавечага высілку. Рэальным зрабіўся аўтаматычны мантаж матораў, робатамі. Пралетарыят адыходзіць у нябыт. На аднаго рабочага сёння трох-чатырох працуе ў сферы паслугаў (у нас наадварот).

Чакаецца найвялікшая тэхналагічная рэвалюцыя! Прыход эпохі інфарматыкі, у якую галоўны прадукцыйны патэнцыял перамесціцца, як кажуць, з рук у галаву. З запацелай рабацяшчасці ў інтэлект. Не колькасць фірмаў і канцэрнаў пачне вырашаць пра эканамічную магутнасць, а штораз новыя адкрыцці, навуковая перавага. Напрыклад, выраб сталепадобных субстанцыяў метадам біялагічнай тэхналогіі; так сказаць, у сажалках. Талкуем пра вадародную бомбу, наогул энергію, не памятаючы з урокаў хіміі, што ўзор вады — гэта два атамы вадароду і адзін кіслароду...

Пры эмігрантах ты не паглыбляйся ў тыя дылемы. Яны, як і ты, да скону сваіх дзён еўрапейцы ў Амерыцы, якім важна, што нарэшце зажылі багацей за найбагатых у Бацькаўшчыне. Амерыканскія выпрадкі з Часам — гэта не іх праблема. Дагаінілі хлеб, і добра ім.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**
**Гэйнэсвіл, ЗША.**

# ДАКУМЕНТАЦЫЯ КАШМАРУ

Пасля II сусветнай вайны ў новых межах Польшчы аставалася яшчэ 150 тысяч беларусаў і каля 700 тысяч украінцаў. Згодна з дамовамі, падпісанымі ў верасні 1944 г. паміж урадамі Польшчы, Беларусі і Украіны з тэрыторыі савецкіх рэспублік мелі быць пераселены палякі на захад ад лініі Керзана, а з Польшчы на ўсход мелі пераехаць беларусы і ўкраінцы. Дамова прадугледжвала, што перасяленне будзе добраахвотнае і толькі для тых, якія самі захочуць змяніць сваю дзяржаўнасць.

З Польшчы выехала каля 38 тысяч беларусаў. Тых, што асталіся, народная ўлада лічыла -- дарэчы, вельмі слушна -- што магчымай будзе іх хуткая паланізацыя.

Калі ідзе пра ўкраінцаў, дык пакідаць сваю зямлю, вёску і маёмасць добраахвотных не было таксама многа. На ўсход ад лініі Керзана перасяленцаў чакалі калгасы або канцлагеры. Сітуацыя ўкраінцаў была аднак намнога больш складаная, чым беларусаў. Падчас вайны адносіны паміж імі і палякамі, мякка кажучы, не былі найлепшымі. Лік ахвяраў крывавых расправаў па абодвух баках канфлікту некаторыя гісторыкі акрэсліваюць на 500 тысяч.

У 1945 г. сярод кіраўнічых органаў народнай улады ў Польшчы была прынята дактрына пабудовы адзінаэтнічнай дзяржавы. Камуністы пераймалі ўсе асноўныя прынцыпы нацыянальнай палітыкі ў нацыянал-дэмакратаў. 700 тысяч украінцаў, у большасці нацыянальна свядомых, у ніякім выпадку не пасавалі да гэтай мадэлі дзяржавы. Апрача таго ўкраінцы мелі сваё ўзброенае падполле — Украінскую паўстанчую армію Закерзонскага краю. Урадавая прапаганда вельмі лёгка стварыла вобраз УПА як "банды фашысцкіх злачынцаў", а амаль усіх украінцаў палічыла іх супрацоўнікамі.

У верасні 1945 г. польская армія, парушаючы прынцып добраахвотнасці, пачала пад прымусам высяляць жыхароў украінскіх вёсак, накіроўваючы іх на тэрыторыю УССР. З Кракаўскага, Жэшаўскага і Люблінскага ваяводстваў было вывезеных да канца 1946 г. 482 тысячы людзей. Паводле ўладаў пасля гэтай гіганцкай акцыі на тэрыторыі Польшчы аставалася толькі каля 20 тысяч украінцаў.

У гэтым месцы ўзнікае пытанне, на якога адказ украінцы чакалі пару дзесяткаў гадоў: у якіх мэтах была арганізаваная другая аграмадная аперацыя перасялення іх, гэтым разам на поўнач і захад Польшчы? Аперацыя гэтая названа была крыптанімам "Акцыя „Вісла".

Найчасцей улады тлумачылі правядзенне акцыі "Вісла" неабходнасцю ліквідацыі УПА, якая быццам бы паралізавала жыццё паўднёва-ўсходняй Польшчы, а ў канцы нават застрэліла віцэ-міністра нацыянальнай абароны генерала Караля Сввярчэўскага.

Акцыя „Вісла" доўга чакала свайго гісторыка. Аказаўся ім малады ўкраінскі

Geografia zamieszkiwania Ukraińców w Polsce po VII 1944 r. i VII 1947 r.




Obszar zamieszkały przez Ukraińców przed wysiedleniem w ramach akcji „Wisła"

Obszar, na który przesiedlono Ukraińców w ramach akcji „Wisła"

*Карта высялення ўкраінцаў, змешчана ў кніжцы "Akcja „Wisła" (дадатак № 6, стар. 449).*

даследчык, супрацоўнік Польскай акадэміі навук Яўген Місіла. Тэмай гэтай ён займаўся каля 10 гадоў, выкарыстаў фонды амаль усіх архіваў, у якіх былі дакументы, звязаныя з перасяленнем украінцаў на поўнач і захад Польшчы. Місіла шмат пісаў на гэту тэму ў розных гістарычных часопісах, выступаў з дакладамі на шматлікіх навуковых канферэнцыях, змагаўся з міфамі і стэрэатыпамі, кранаючымі яго народ.

Пару месяцаў таму выйшла з друку ягоная кніжка "Akcja „Wisła" *, якая змяшчае дакументы, звязаныя з трагедыяй украінцаў у 1947 г. Яўген Місіла даказаў, што ў ніякім выпадку прычынай акцыі "Вісла" не была смерць генерала Свярчэўскага. Акцыя была запланавана намнога раней і толькі пачалася пасля забойства генерала. Мала праўдападобнае таксама і тое, што Свярчэўскі загінуў ад упаўскай кулі. Самое падполле налічвала тады каля 1,5 тысячы салдатаў і з мілітарнага пункту гледжання не стварала ніякай праблемы. Яго ліквідацыя была магчымай без перасялення мірных жыхароў.

140 тысяч людзей было прымушаных пакінуць сваю зямлю і ў кашмарных умовах пераехаць у другі канец дзяржавы, у чужое асяроддзе. Пару тысяч украінцаў трапілі ў канцлагер у Явожне.

Яўген Місіла дае магчымасць чытачу пабачыць звышсакрэтныя дакументы, пазнаёміцца з метадамі працы ваенных штабаў і спецслужбаў, пазнаць менталітэт афіцэраў польскай арміі, якія арганізавалі акцыю "Вісла", пункт гледжання прадстаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі па справах нацыянальных меншасцяў.

Кніжка перш за ўсё будзе цікавай для даследчыкаў навейшай гісторыі Польшчы, асабліва для вывучэння пасляваенных польска-ўкраінскіх адносін.

Чытаючы гэты збор дакументаў, усётакі б'ецца ў галаве думка, што, можа, нашая беларуская нацыянальная пасіўнасць мела часам свае апраўданне.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

---

* Eugeniusz Misiło, Akcja "Wisła", Warszawa 1993, s. 521, wyd. Archiwum Ukraińskie.



# ХТО ЗРОБІЦЬ ПЕРШЫ КРОК?

**У гайнаўскай Пачатковай школе н-р 2 усяго 1625 вучняў. Праваслаўнай рэлігіі вучыцца 60%, беларускай мове — 74 вучні.**

**Журналістка „Нівы" размаўляе з дырэктарам школы ЗБІГНЕВАМ БУДЗЫНЬСКІМ.**

*— Чаму так мала дзетак вучыцца беларускай мове?*

— Па-першае, вінаватыя бацькі, бацькі і яшчэ раз бацькі. Чаму бацькі? Бо я думаю, што калі яны адчуваюць сябе беларусамі, дык павінны дбаць, каб іх дзеці вучыліся роднай мовы. Калі гавораць на гэтай мове ў хаце, павінны вывучаць яе і ў школе.

*— Гледзячы, аднак, на статыстыку выглядае яно так, што вельмі мала бацькоў хоча беларускай мовы для сваіх дзяцей.*

— Гэты прадмет, як у нас прынялося, неабавязковы. Выбіраючы сваім дзеткам з другога ці трэцяга класа дадатковы, неабавязковы прадмет, многія лічаць яго дадатковай нагрузкай. Большасць думае, што гэтая мова — непатрэбная. Бацькі, наогул, навуку ў пачатковай школе трактуюць як нешта прымусовае. Дзеці пераважна не хочуць вучыцца ніякіх прадметаў. Найбольш мяне здзіўляе тое, што нават інтэлігенцыя беларускага паходжання не дбае пра тое. Не ведаю, можа паралізуе іх страх перад тым, што іх дзіця асмешыцца, не ведаю. Бо паглядзіце, ёсць беларускі ліцэй у Гайнаўцы, але многія жадаюць пасылаць дзіця ў польскі ліцэй.

*— У школе працуюць беларусісты.*

— Так, працуе чатыры выпускнікі беларускай філалогіі. Трох ужо перакваліфікаваліся на польскую мову, адна працуе ў святліцы. Я думаю, што тут няма чаму здзіўляцца. Калі няма дзяцей, ахвотных вывучаць беларускую мову, то людзі шукаюць для сябе нейкі падобны прадмет, каб мець стабільную працу. Гэта нармальная з'ява, калі настаўнік хоча працаваць у сваёй прафесіі.

*— Можа трэба было беларускую мову зрабіць абавязковай?*

— Я думаю, што мы мусім дарасці да пэўных спраў. Трэба было б вялікую колькасць вучняў прымусіць вывучаць беларускую мову, а я не хацеў бы гэтага рабіць насілу. Трэба ўпершыню падумаць пра практычнае выкарыстанне гэтай мовы. Напрыклад, год таму назад у вышэйшых навучальных установах у Ольштыне ўступныя экзамены па замежнай мове можна было здаваць на беларускай, таксама як на англійскай ці нямецкай. Такая матывацыя пераконвае не толькі беларусаў, але і палякаў.

*— Выглядае, аднак, што беларуская мова, якой вучацца 74 вучні, выкладаецца „насілу".*

— Так. Але гэта добры прыклад. Настаўніца, Аляксандра Сегень, гэта педагог з дваццаціпяцігадовым стажам. Яна — выпускніца бельскага педагагічнага ліцэя. Беларускую мову трактуе зусім сур'ёзна. Яе ўрокі адзначаюцца высокім метадычным і мерытарычным узроўнем. Такі падыход да гэтага прадмета падыктаваны эканамічнымі матывамі. Яна не мела б працы, каб не навучала беларускай мовы.

*— Як вы бачылі б навучанне праваслаўнай рэлігіі на беларускай мове?*

— Неяк у нас прынялося, што праваслаўнае веравызнанне спалучаецца з беларускай нацыянальнасцю. Гэта крышку недакладны падзел. Гэтыя 60% праваслаўных зусім не мусіць быць беларусамі. Я не маю нічога супраць беларускай мовы на праваслаўнай ці каталіцкай рэлігіях. У даны момант абавязвае поўная свабода ў выбары праграм і настаўнікі могуць ствараць свае праграмы, аўтарскія. Калі нехта схоча ажыццявіць іх, з нашага боку не будзе перашкод. Быў у нас настаўнік-катэхет, які хацеў вучыць Закону Божага на старажытнацаркоўнаславянскай мове.

*— А калі б палякі апынуліся ў такой палітычнай і грамадскай сітуацыі, як цяпер беларусы і катэхет на каталіцкай рэлігіі запрапанаваў бы вучыць латынь, вы згадзіліся б?*

— *(Смяецца).* Думаю, што мусіць быць большае заангажаванне з боку беларускай інтэлігенцыі. Хтосьці мусіць зрабіць першы крок, каб справа беларускай мовы стала важнай, а не — як сёння — малаістотнай праблемай. Узнікае толькі пытанне, хто зробіць гэты першы крок.

*— А ці бачыце падтрымку з боку польскай інтэлігенцыі?*

— Думаю, што трэба было б стварыць партыю разважных людзей. Заўсёды можна дамовіцца, калі гэтага хочуць абодва бакі.

*— Як выглядае будучае беларускай мовы ў вашай школе?*

— Калісьці я быў сведкам такога здарэння. Дзеці ў адным класе расказвалі сабе, што яны робяць на занятках праваслаўнай рэлігіі, а што на каталіцкай. І гэта была іх двухбаковая цікавасць. Тое, аб чым многія палохалі з выпадку ўвядзення рэлігіі, а менавіта, што школа стане месцам нязгоды і рэлігійных падзелаў, не споўнілася. Калісьці былі такія галасы, што гэта беларуская школа і тут „насілу" хочуць выкінуць беларускую мову. Але ўсім вядома, што гэта польская школа з беларускай мовай навучання па прынцыпу добраахвотнасці. І месца гэтай мове я бачу. Трэба толькі, каб беларусы больш цікавіліся гэтай справай. З боку дырэкцыі няма ніякіх перашкод.

**Размаўляла ГАННА КАНДРАЦЮК**

# У ХРАБАЛАХ У ШКОЛЕ

Калі я быў працаўніком БГКТ, даволі часта бываў я ў школе ў Храбалах (гміна Бельск). Запамятаўся мне лозунг на школьным калідоры: "Szanuj mowę ojczystą. Nie znać swego języka -- hańbą jest oczywistą". Моцна сказана! Толькі вось мучыць мяне пытанне: ці такі заклік тычыцца таксама настаўнікаў-беларусаў на Беласточчыне?

Пасля двух гадоў зноў завітаў я ў гэтую школу. Адразу заўважаецца, што школа неяк стала больш прыгожай. "Знаёмага" лозунга ўжо не заўважыў. Аказваецца, што адбыўся рамонт школы. У мінулым годзе змяніўся дырэктар. Конкурс на пасаду дырэктара выйграла настаўніца (магістр хіміі) Валянціна Гаўрылюк, якая працуе тут больш дзесяці гадоў. Сама яна родам з паблізкіх Плёскаў. Пані дырэктар знаёмая мне з конкурсаў беларускай песні для школьнікаў. Апекавалася тады дзявочым дуэтам сёстраў Ёлі і Крысі Семянюк, якія часта былі лаўрэатамі. Хаця наведаўся я неспадзявана, прыняты быў, аднак, прыхільна. "Ніву" тут чытаюць і не забываюць сваёй мовы. У школе ўсюды парадак і чысціня. Калідоры і залы ўпрыгожаныя візуальнымі інфармацыямі пра школу і навакольны свет, цікавымі дэкарацыямі. Ёсць таксама партрэты беларускіх пісьменнікаў. Экспануецца вялікая колькасць дыпломаў, пераважна са спартыўных спаборніцтваў школьнікаў.

Аднаўленне школьных памяшканняў яшчэ поўнасцю не закончана. Пані дырэктар падкрэслівае вялікую ангажаванасць бацькоў. За іх грошы была зроблена большасць работ. Толькі адно маляванне каштавала 24 мільёны злотых. Кураторыя асветы ў Беластоку адрамантавала дах. Многа дапамагае Гмінная ўправа ў Бельску, хаця пакуль што не пераняла яна школы на сваё фінансаванне.

У школе вучацца дзеці з дзесяці навакольных вёсак. Усіх іх сто сорак два вучні, у тым ліку 19 у прадшкольным класе. На 110 вучняў (класы II-VIII) 76 навучаецца праваслаўнай рэлігіі (астатнія -- каталіцкай) і 66 — беларускай мове. Працуе тут трынаццаць настаўнікаў (усе жывуць у Бельску і даязджаюць у Храбалы) ды трое катэхетаў. У II класе беларускай мовы вучыць Анатолія Назарук, а ў класах з III да VIII — Ірына Ефімюк. Варта адзначыць, што вучні з гэтай школы часта былі лаўрэатамі дэкламатарскага конкурсу. На жаль, у той дзень настаўніцы беларускай мовы ў школе не было. Пазнаёміўся я з маладым настаўнікам Мікалаем Хіліманюком (родам з вёскі Мора), які таксама спецыяліст па хіміі, але вядзе яшчэ занякі па фізіцы, геаграфіі да фізкультуры. Адчуваецца, што гэты педагог любіць сваю прафесію і вучняў. Арганізуе ён розныя пазапраграмныя мерапрыемствы для школьнікаў: сустрэчы, экскурсіі, гульні. Вынікі такой працы няцяжка заўважыць па інфармацыях у насценгазетах, дыпломах і памятных узнагародах у кабінеце дырэктара.

Сустрэўся я з сямікласнікамі. Але яны, відаць з-за неспадзяванага спаткання, не спяшаліся расказваць пра сябе. Сярод іх пазнаў я Марту Алексяюк, якая некалі паспяхова выступала ў беларускім дэкламатарскім конкурсе. Аднакласнікі заявілі, што яна найлепш вучыцца. Значыць — не ўсім беларуская мова перашкаджае добра вучыцца! На развітанне вучні сёмага класа ахвотна сфатаграфаваліся для "Нівы". Думаю, што яшчэ не раз школьнікі з Храбалоў паспяхова будуць выступаць у беларускіх конкурсах. Жадаем ім удачы.

**ЯН МОРДАНЬ**

# ВЯНОК АСЕННЯЙ ПАЭЗІІ

*НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА (год нар. 1903) — адна з выдатнейшых паэтаў беларускай літаратуры. Яе аўтарству належаць зборнікі: "Пад сінім небам", "Жоўтая восень", "Сягоння", "Між берагамі". З 1944 г. пражывае на эміграцыі. З-за палітычных прычын у Савецкай Беларусі яе імя перамоўчанае.*

У 1935-37 гадах пасля дзесяцігадовага перапынку, Н. Арсенневай быў складзены другі паэтычны зборнік "Жоўтая восень". Зборнік гэты не выйшаў асобнай кніжкай. Многія вершы друкаваліся ў часопісах. У 1979 г. быў ён уключаны як раздзел у зборнік "Між берагамі" (Нью-Йорк — Таронта, выдавецтва „Бацькаўшчына").

Варта прывесці некаторыя факты, звязаныя з паўстаннем зборніка. Вялікую заслугу трэба тут аддаць таленту Максіма Танка. Пад яго ўплывам крытычна перагледзелі сваю творчасць такія паэты, як: М. Машара, М. Васілёк, Х. Ілляшэвіч. Усе яны папалі пад танкаўскі новы лад. Не асталася без увагі і Арсеннева. Эфектам гэтай канфрантацыі ёсць і "Жоўтая восень". Вершы гэтага зборніка спалучаюць танкаўскую тагачасную паэтыку і тэматычную традыцыю паэткі. Лейтматывам застаецца і далей паэтычнае асэнсаванне красы прыроды. Самай блізкай і прыгожай парой года для паэткі застаецца восень. Трэба дадаць, што вершам пад такім жа загалоўкам паэтка пачала свой літаратурны дэбют. У "Жоўтай восені" амаль адна трэць вершаў прысвечана той жа пары года. Апісанні вобразаў, зрокавыя і эмацыянальныя адчуванні стварылі непаўторную "галерэю", якая не мае сабе роўнай ва ўсёй беларускай літаратуры.

*... Жоўта скрозь...*  
*над палямі шырокімі*  
*спяць дубы, як мядзяныя волаты,*  
*Укруг бярозы стаяць белабокія,*  
*Сыплюць з косаў рассыпаных золата,*  
*Спіць лог жоўты, туманамі змочаны,*  
*пахне мохам, лістамі як ладанам...*  
*І сціскаецца сэрца няхочачы*  
*смуткам дзіўным, неразгляданым.*

"Жоўтая восень"

Залатая восень пануе над асеннімі дажджамі і вятругамі. Чароўная разнастайнасць каляровых дрэў, пахі лясоў і лугоў, туманы, імглы, шэлест і шэпт лясоў спалучаецца з радаснай трывогай лірычнага героя. Вершы гэтыя выклікаюць непаўторныя эстэтычныя перажыванні. Свет паэткі -- гэта "свет маці зямлі", "там адвечныя правы", — сцвярджае аўтарка ў вершы "Паралель". Многія вершы -- рэфлексійныя. Іх лірычны герой разважае праблемы шчасця, праміnання, недасяжнасці ідэалаў. Мастацкія мары выплываюць з патрэбы душы, шалёнай прагі лепшага жыцця.

*-- Дзесь панад хмары ўзляцець мне,*  
*У сонца несцерпны пажар!...*  
*хай людзі мяне зненавідзяць*  
*а дух мой да сонца ўзляцяць...*

"Каб крылы"

Не цяжка сабе ўявіць, які гэта быў кантраст у сутыкненні з трагічнай беларускай рэчаіснасцю. Лірычны герой жыве ў собскім мікракосмасе. Разумее розніцу паміж сабой і сучаснымі паэтамі "нашаніўцамі".

*Я хацела б гарэць і змагацца як вы,*  
*разам з вамі каваці чаканае ранне,*  
*але дні мае іншыя маюць правы:*  
*сыпкім золатам ліпаў мамяць*  
*і цыганяць.*

"Маладым паэтам"

Творчасць Арсенневай у "Жоўтай восені" характэрная і тым, што зусім не кранае яна праблем беларускай вёскі. Няма у ёй таксама палітычных і грамадскіх пытанняў сучаснай аўтарцы пары. Паэтка ўдасканальвае (у параўнанні з "Пад сінім небам") свет тэхнічных магчымасцяў. Гэта перад усім вобразнасць паэтычнай мовы. Паэзія гэтага зборніка адзначаецца таксама багатай метафарычнасцю. Паасобныя фразы верша часта канцэнтруюць згустак думак і вобразнасці, напрыклад: *Срэбрнай стужкай туман-пустацвет занік, -- растаяў у полі і ўгару ўзнімаюць бярозы зялёныя рукі.*

Паэтычны слоўнік твораў багацейшы, чым у папярэднім зборніку. Таксама ўзбагачаецца музыкальнасць вершаў, паўстаюць формы гукавай гармоніі. Часта аўтарка карыстаецца асанантычнай рыфмай. Гукавая інструментоўка дапамагае ўзнавіць разнастайнасць водгукаў прыроды. Рытм верша ўтварае меладычную і гарманічную арганізацыю верша. Гэта вялікі крок уперад для маладой беларускай паэзіі. Арсеннева слядамі Багдановіча імкнулася да гарманічнага суладдзя формы і зместу. І гэта ўдала прадставіла ў "Жоўтай восені". Гэты зборнік, нягледзячы на ход часу застаецца найпрыгажэйшым "вянком асенняй паэзіі". Варта было б падумаць аб выданні гэтай кніжкі.

**ГАННА КАНДРАЦЮК-СВЯРУБСКАЯ**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

### Вершы Віктара Шведа

#### ЯГАД ХОПІЦЬ І ВОЎКУ

Янка сустрэўся з Алесем
І з недаверам пытае:
— Воўчыя ягады ў лесе
Чаму ты, дружа, збіраеш?

Алесь адказаў сябру Янку:
— Хопіць тых ягад і воўку.
Я думаю, што іх да ранку
Многа тут вырасце зноўку.

#### ЦІ ВЫРАШЫЎ ЗАДАЧЫ?

— Ці сёння меў удачу
І вырашыў задачы?
— Я, мама, — кажа Лёва, —
Іх вырашыў... часткова...

— Ты вырашыў, нібыта,
Дык пакажы мне спытак!
— Задачу адну маю —
Спісаў у Мікалая!

З вучнёўскай творчасці

### МОДА

Сядзіць жабка на лісточку,
Жабка скрылася ў цянёчку.
Сядзіць панна у ваконцы,
Панна грэецца на сонцы.

На паненачцы — сукенка,
Гэта ж модная паненка.
Ну а жабка так не ходзіць,
Не сукенкі жабкам ў модзе!

АДА СЕМЯНЮК,
Беласток, III клас



*У пачатковай школе ў Ягуштове.* Фота М. Ваўранюка

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

### ПАЛАЧКА-БАРОВАЧКА

Дзеці выбіраюць каго-небудзь вартаўніком палачкі. Вартаўнік бярэ дошачку (палена або кавалачак дрэва), кладзе яе на панадворку і, узяўшы ў руку палачку, крычыць: "Хавайцеся!" Сам вартаўнік закрывае вочы хусткай або шапкай, каб не бачыць, куды хто хаваецца. Калі ўсе схаваюцца, вартаўнік кладзе палачку на дошку, ходзіць, прыгаворваючы:

-- *Палачка-баровачка прыйшла,*
*Нікога дома не знайшла.*
*Каго першага знойдзе,*
*Той да палачкі пойдзе.*

Пасля ідзе шукаць. Як заўважыць каго-небудзь, падбягае да палачкі і б'е ёю па дошцы, называючы імя знойдзенага. Той становіцца каля палачкі збоку і лічыцца "прыбітым". Калі вартаўнік "прыб'е" такім спосабам усіх ігракоў, тады першы "прыбіты" становіцца на месца вартаўніка. Але калі каму-небудзь удасца ўкрасці палачку, гэта значыць дабегчы да яе раней вартаўніка і стукнуць ёю па дошцы, сказаўшы: "Палачка ўкрадзена!", тады ўсе ігракі ідуць хавацца, а вартаўнік зноў пачынае гульню.

## ЗА ГІСТАРЫЧНЫМІ ПАДЗЕЯМІ

Пра Крэўскі замак напісана няма-ла. І ўсё ж кожнае знаёмства з мураванай спарудаю прыносіць новыя звесткі пра нашу мінуўшчыну. У 1382 годзе ў яго мурах здарыліся трагічныя падзеі. Змагаючыся за вялікакняжацкі трон, здрадзіў сваім прысягам на міралюбства вялікі князь Ягайла і схапіў „князя вялікага Кейстута, дзядзьку свайго, скаваўшы, да Крэва паслаў, пасадзіў у твержу... І там у Крэве князя вялікага Кейстута задушылі пятае ночы князя Ягайлавы каморнікі..." Дэталі той трагедыі можна раскрыць, супаставіўшы звесткі летапісаў з матэрыяламі археалагічных даследаванняў. Вязніца 82-гадовага вялікага князя знаходзілася на першым паверсе Княжацкай вежы, куды можна было трапіць толькі праз вузкі тунель, які праходзіў у тоўшчы сцен з другога паверха. Зрэшты, як паказалі археалагічныя раскопкі, у сярэдзіну збудавання можна было трапіць толькі з баявой галерэі, якая размяшчалася на ўзроўні трэцяга паверха вежы. Калі ў сценах другога паверха мелася ўсяго некалькі вузенькіх байніц, то ўжо на трэцім і чацвёртым паверхах былі зроблены шырокія вокны са спічастымі завяршэннямі, адкосы якіх дойліды шчодра аздобілі фрэскавым роспісам. Яшчэ ў 1928 годзе ў „Нарысах з гісторыі беларускага мастацтва" Мікола Шчакаціхін, звярнуўшы ўвагу на гэту асаблівасць Княжацкай вежы, выказаў меркаванне пра размяшчэнне ў ёй жылых княжацкіх пакояў.

Думка мастацтвазнаўца пацвярджаецца не толькі звесткамі летапісаў, але і знойдзенымі пры раскопках тысячамі кавалкаў тынкоўкі з фрагментамі роспісу. Старажытны хранікёр запісаў: „По смерці князя вялікага Кейстута паслаў князя вялікага Вітаўта князь вялікі Ягайла ў зняволенне на Крэва і з жонкаю загадаў строга сцерагчы... Князь вялікі Вітаўт сядзеў у Крэве пад вартаю ў пакоі („комнате"), а жанкам двум дазволена было хадзіці да пакоя, і княгіню ім пасадзілі, а паклаўшы іх, вон выходзяць..." Княгіня вякікая Вітаўтава прапанавала мужу: „Як служанкі зойдуць рыхтаваць нас да сну, пераапраніся ў вопратку аднае і выйдзі з другою, а тая няхай застанецца са мною". Вітаўт скарыстаў прапанову жонкі і „спусціўся з мура, і ўцёк да Нямеччыны... Да Мар'іна гарадка".

Шчаслівую развязку мела гэта трагічная гісторыя. Праз 28 гадоў вялікі князь Вітаўт павёў на бой пад Дуброўнам (Грунвальдам) харугвы беларусаў, палякаў, летувісаў, чэхаў, татараў, якія дашчэнту разбілі мацнейшае ў Еўропе крыжацкае войска, паклаўшы канец агрэсіі ордэнскіх вояў на ўсходнія землі.

Разам з тым старонкі палітычнай гісторыі раскрываюць і нямала невядомага з мінуўшчыны беларускага дойлідства. Характар пабудовы Княжацкай вежы дазваляе гаварыць пра яе як пра адну з першых на Беларусі вежы-данжон — жылая вежа з функцыямі абароны. Такія будыніны здаўна ўзводзіліся ў краінах Заходняй Еўропы і ў выпадку небяспекі станавіліся непрыступнымі ўмацаваннямі.

ІГАР ЧАРНЯЎСКІ

## НОВЫЯ ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ВАЙНА З ЛЯЛЬКАМІ

Аднойчы мышцы Пік-Пік было вельмі сумна. З кім бы пагуляцца? Пайшла мышка да Веранічкі, а Веранічка малюе. Не захацела гуляцца з мышкай.

Пайшла мышка Пік-Пік да Максімкі. А Максімка спіць. Ну што будзеш рабіць з малечай!

Пайшла мышка Пік-Пік да таты. Тата пад газету схаваўся, і не выцягнеш яго адтуль і танкам.

Пайшла мышка Пік-Пік да мамы. Мама есці гатуе, верш піша і адначасова посуд мые. Мышка нават і прапанаваць нічога не стала.

Усё! Нікога больш у хаце няма. Ніхто гуляцца з мышкай беднай не хоча...

Ідзе Пік-Пік, занурыўшыся, у норку. А ў Вераніччыным пакойчыку лялькі па падлозе параскіданы. „Дык я ж магу з лялькамі пагуляцца!" — падумала мышка, узрадавалася і давай цягаць іх у сваю норку — а то Веранічка адбярэ! Нацягала ўсе лялькі, што толькі пралезлі, расcадзіла іх па сценках — ледзь павярнуцца ў норцы.

— Ну, госці дарагія, — кажа Пік-Пік, — у што гуляцца будзем? У дом? У школу? У цырульню?

А лялькі маўчаць, глядзяць на мышку круглымі немігучымі вачыма дый толькі.

— Можа, вы есці хочаце? — запыталася мышка. Хаця адказу зноў не было, Пік-Пік прыцягнула з дальняга кутка сваёй норкі, дзе хавала прыпасы, лепшых цукерак і пачала соваць у ляльчыны ружовыя раты. Але лялькі не елі.

— Дык што ж гэта такое? — абурылася мышка. — Ёлупы! Ні слова ад вас не пачула! Ні дзякуй, ні добры дзень! Ідзіце адсюль, калі гуляцца не жадаеце!

І Пік-Пік узяла самую вялікую ляльку і пацягнула да выхаду з норкі. Але, паколькі ножкі ляльчыны тырчэлі ва ўсе бакі, лялька з норкі не выйшла. Яна трывала запчаміліся ў праходзе, і як мышка ні напіналася, не магла скрануць яе з месца.

— Ах, так! — абурылася мышка. — Ты яшчэ і выходзіць не хочаш! Ну, вось я табе... — укусіла ляльку за пластмасавую нагу. Не дапамагло. Мышка агледзелася вакол. З усіх бакоў на яе глядзелі пустыя блiскучыя вочы, нягнуткія рукі цягнуліся наперад, расфарбаваныя раты злавесна ўсміхаліся... Пік-Пік стала страшна... Яна паспрабавала яшчэ раз напалохаць лялек і дрыжачым галаском прапішчэла:

— Прэч адсюль! А то я вас усіх пазагрызаю, вочы павылупліваю і валасы павыдзіраю!

Але лялькі, відаць, зразумелі, што баяцца ім няма чаго, і нават не скрануліся з месца. Тут пачуўся голас Веранічкі:

— А дзе мае лялькі? Мама, ты не бачыла іх?

Пік-Пік страпянулася. Яна не ведала, што рабіць. Калі пазваць на дапамогу Веранічку, будзе лаяцца, што мышка пабрала без дазволу яе цацкі. Калі прамаўчаць, лялькі зусім азвярэюць і невядома, чым гэта скончыцца. Між тым Веранічка ў пошуках зазірнула пад шафу і ўбачыла, што з норкі Пік-Пік тырчыць ляльчына нага. Веранічка схапілася за яе, тузанула — і лялька выскачыла з-пад шафы. А за лялькай з норкі пачалі вылазіць астатнія: гэта Пік-Пік выкідала іх. Вызваліўшы норку, мышка крыкнула Веранічцы:

— Замкні свае лялькі ў шафу!

— Чаму? — здзівілася Веранічка.

— Таму, што яны зноў норку захопяць! — адказала Пік-Пік і загарадзіла ўваход у сваю норку кніжкай у цвёрдай вокладцы. І больш нікалі з лялькамі не гуляла.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ

*АЛЕГ МІНКІН*

### КОШКА

Сумуе пад клёнам высокім
На ўскраіне вёскі хаціна.
Узняўся дзядоўнік да вокан,
І мох на страсе, як хусціна.

На шыбах гарбатыя дошкі.
Замок на дзвярах. У адведкі
Прыходзіць сюды толькі кошка,
Што зараз жыве у суседкі.

Залазіць праз шчыліну ў сенцы,
У дзверы шкрабецца, а потым
Падоўгу сядзіць ля акенца,
На двор пазірае журботны.

І жмурыцца, ўцяміць не можа,
Дзе пеўнік падзеўся? Дзе Лыска?
Чаму гэта пад агароджай
На смецці ляжыць яго міска?

Вуркоча, дурніца, і верыць:
Пачуюць яе ў цiхай хаце,
Ласкава паклічуць вячэраць,
Па спінцы пярэстай пагладзяць...

## ЛАГАГРЫФ

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | |
| 2 | | | | |
| 3 | | | | |
| 4 | | | | |
| 5 | | | | |
| 6 | | | | |
| 7 | | | | |
| 8 | | | | |

1. жыве ў Польшчы, 2. напр. падручнік, 3. польская рака, 4. прыводзіць машыну ў рух, 5. расце на сенажаці, 6. адзяваюць яе на галаву, 7. ліпкі сок хвойных дрэваў, 8. пасуда, якою носяць ваду.

Вылучаныя літары складуць назву месяца.

Чакаем адказаў два тыдні. За правільны адказ адно з Вас атрымае кніжную ўзнагароду.

## ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

### 2

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### ПАЛАЧКІ І ДУЖКІ

Для гэтай гульні патрэбны тыя ж палачкі, што і для папярэдняй (можна ўзяць і „воўчыя" — з галінак), а таксама дужкі (3-4 см паміж канцамі). Іх няцяжка зрабіць з ізаляванага дроту, выразаць з кардону або пенапласту, падабраць адпаведныя галінкі, што апалі з дрэў.

Заданне — скласці пэўную літару. Хто выканае заданне, падымае руку, настаўнік (вядучы, важаты, старэйшы таварыш) падыходзіць і правярае, а калі патрэбна, папраўляе. Напрыклад: хто хутчэй складзе літары **Б; В; Ф** (і г. д.)? Таму, хто правільна выканаў заданне, даецца фішка-ачко і прапануецца новае. Калі ў гульні ўдзельнікаў больш за пяць, вядучаму патрэбны памочнікі, якія своечасова правяраюць выкананне заданняў і даюць новыя заданні ў сваёй зоне (у вядучага і памочнікаў павінны быць загадзя падрыхтаваныя лісткі з заданнямі, аднолькавымі для ўсіх зон). Вынікі падводзяцца праз пэўны час, таксама загадзя абумоўлены, па колькасці фішак, якія прад'яўляе кожны ўдзельнік. Фішкамі могуць быць каменьчыкі, кардонавыя кружочкі ці квадрацікі, палачкі і інш.

*Варыянты:*

1. Хто складзе больш літар за абмежаваны час? Праверка праводзіцца пасля заканчэння гэтага часу, калі ўсе адышлі ад сталоў, дзе ляжаць складзеныя літары.

2. Як і папярэдні, але праверка робіцца наступным чынам: кожны называе літары (*бэ, эм* і г. д.) і вымаўляе гукі. Бал за літару, бал за гук; за кожную памылку бал здымаецца.

3. Хто хутчэй складзе названае слова?

4. Хто хутчэй складзе слова на пэўную тэму? Тэму вызначае настаўнік (назва жывёлы, расліны, машыны, імя мужчынскае ці жаночае — памяншальнае ці поўнае і г. д.), слова падбірае сам вучань. Кожны чытае слова (сачыць за вымаўленнем!), астатнія слухаюць; памылкі выпраўляюцца калектыўна.

### НЕДАПІСАНЫЯ ЛІТАРЫ

Настаўніца папрасіла мастака зрабіць літары для гульняў, якія меркавала праводзіць з вучнямі. Ён пачаў работу, але раптоўна захварэў. Вучні прыйшлі яго наведаць і ўбачылі, як ён шкадуе, што не паспеў выканаць просьбу. А яму ж нельга хвалявацца, ведалі дзеці, бо ў яго хворае сэрца. Як жа дапамагчы, супакоіць? І раптам Алёша здагадаўся:

— А што, калі мы дапішам гэтыя літары?

Астатнія падтрымалі:

— Сапраўды, Алесь Іванавіч, дазвольце нам гэта зрабіць!

— А здолееце?

— Здолеем! Мы будзем старацца!

— Ну, добра, дзякуй вам. Там, у шафе, вазьміце мае загатоўкі. Складайце з іх літары, абводзьце алоўкам і выразайце трафарэты, па якіх вам няцяжка будзе напісаць любую колькасць літар.

Вучні так і зрабілі. І мастак, і настаўніца былі задаволены іх работай. Ці здолееце вы, дзеці, зрабіць гэтак жа? А дапаможа вам наступная гульня.

*(Працяг у наступным нумары)*



*Вучні з Ласінкі.* **Фота М. Лукшы**

## ЛІЧЫЛКІ

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Выплывае белы месяц,
А за месяцам луна,
Выйшла дзевіца-слуга.
— Ты, слуга, падай карэту,
А я сяду і паеду,
Ты, слуга, падай мятлу,
А я хату падмяту.

* * *

Раз, два, тры, чатыры, пяць,
Шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць,
Цар вялеў мяне павесіць.
А нядоўга я вісеў:
Вецер дунуў — я зляцеў.

* * *

Ляцеў лебедзь,
Лічыў дзесяць.
Цар хацеў мяне павесіць,
А царыца не дала
І павесіла цара.
Цар вісеў, вісеў, вісеў
І ў памыйку уляцеў,
Усю памыйку аблізаў
Нават дзякуй не сказаў.

* * *

Сем семярэй
І сямёра свіней.
Свінка і свінчын брат
І сямёра парасят.

* * *

Бег сабачка цераз мост,
Чатыры лапы, пяты — хвост.

* * *

Я сядзеў, чытаў газету,
Нехта выпусціў ракету.
Раз, два, тры —
Гэта, пэўна, будзеш ты.

* * *

Сядзіць немец на паліцы,
Лічыць дзеці на вуліцы:
— Айн, цвай, драй —
Міша, вылятай.

## ЧОРНЫ БЫК НЭРАЎЭЙСКІ

### Шатландская казка

Жыў раз кароль, які меў тры дочкі. Дзве старэйшыя былі вельмі ганарлівыя і зусім непрыгожыя. А вось малодшая — такая пяшчотная і прыгожая дзяўчына. Любілі яе не толькі бацькі, а і ўся краіна. Аднойчы вечарам тры прынцэсы гаварылі аб тым, з кім яны хацелі б пабрацца шлюбам.

— Не пайду ні за кога ніжэй караля, — сказала старэйшая.

Сярэдняя згаджалася на прынца ці герцага.

— Вой, вой, — засмяялася малодшая, — якія вы ганарлівыя. А вось я згаджуся і на Чорнага Быка з Нэраўэя.

Пагаварылі яны так і адразу ж на ўсё забыліся. А наступнай раніцай, калі ўсе снедалі, пачуўся жудасны рык. Гэта сам Чорны Бык прыйшоў па сваю нарачоную. Вядома ж, усе перапалохаліся, бо Чорны Бык быў адной з самых жахлівых жывёлаў у свеце. Кароль і каралева не ведалі, што рабіць, як выратаваць дачку. Нарэшце вырашылі падмяніць яе. Пасадзілі быку на спіну старую птушніцу, і ён пабег да цёмнага бору. Скінуў бык жанчыну ў лесе і раззлаваны вярнуўся да замка. Так адасланы былі яны з быкам усіх пакаёвак, і ўсіх ён паскідваў у лесе. І вымушаны былі кароль з каралевай аддаць Чорнаму Быку сваю любімую дачку.

Доўга ехала яна на бычай спіне праз страшныя, цёмныя лясы, праз пустэчы, пакуль не прыехала да замка. Гаспадар прапанаваў ёй застацца, хаця і быў вельмі здзіўлены жахлівым сябрам прыгожай прынцэсы. Калі ўвайшлі яны ў залу, прынцэса заўважыла ў скуры Чорнага Быка шпільку. Выняла яна яе, і да агульнага здзіўлення бык перакінуўся ў вельмі прыгожага юнака.

Можаце ўявіць, як узрадавалася прынцэса! А юнак упаў да яе ног і пачаў дзякаваць за тое, што яна выратавала яго ад злых чараў. Усе госці замка таксама былі рады. Быў наладжаны сапраўдны фэст, але прыгожы юнак раптам знік, і нідзе яго не маглі знайсці.

Прынцэса страшэнна сумавала і вырашыла ўвесь свет прайсці, але знайсці нарачонага. Доўга яна падарожнічала, але нават не чула нічога пра каханага.

Аднойчы зблукала дзяўчына ў лесе і выйшла да маленькай хаткі, дзе жыла адзінокая старая. Жанчына накарміла прынцэсу і паклала спаць. Раніцой старая падарыла дзяўчыне тры арэхі і сказала, што разбіць іх можна толькі тады, калі адчуваеш, што разбіваецца тваё сэрца. Паказала жанчына прынцэсе дарогу з лесу, і тая зноў выправілася на пошукі каханага.

Не прайшла дзяўчына і ста крокаў, выйшаўшы з лесу, як яе апярэдзілі некалькі прыгожа апранутых коннікаў, якія гаварылі пра тое, якім будзе вяселле графа Нэраўэйскага. Пазней яе апярэдзіла яшчэ некалькі людзей, якія з багатымі падарункамі ішлі на вяселле графа. Нарэшце прыйшла да замка, у якім, здавалася, былі адно кухары, што бегалі па кухні, гатуючы стравы для вяселля. Раптам прынцэса пачула крык:

— Дарогу графу Нэраўэйскаму!

Міма на кані праехаў яе каханы з вельмі прыгожай дзяўчынай.

Вядома, сэрца маладой дзяўчыны літаральна разбівалася, таму яна і разбіла першы арэх. У ім сядзела мініяцюрная жанчына, што прала воўну.

Пайшла прынцэса ў замак і сказала, што хоча пагаварыць з нарачонай графа. Калі тая ўбачыла мініяцюрную жанчыну ў арэху, дык прапанавала прынцэсе за арэх усё, што тая пажадае.

— Я аддам табе арэх, — сказала тая, — калі ты адкладзеш на дзень вяселле і дазволіш мне правесці ноч у пакоі графа.

Нарачоная так хацела чарадзейны арэшак, што згадзілася. І вось ноччу, калі граф ужо спаў, прыйшла да яго ў пакой прынцэса. Села яна каля ложка і заспявала:

*Як доўга я цябе шукала,*
*Колькі боцікаў стаптала,*
*Дык пагавары ж са мной*
*Каханы мой!*

Пела яна ўсю ноч, але граф не прачнуўся. Раніцай прынцэса сышла, а ён так і не ведаў, што яна была побач. Разбіла прынцэса другі арэх. Там сядзела мініяцюрная жанчына, якая матала ніткі. Зноў прынесла дзяўчына арэх у замак, і графава нарачоная зноў згадзілася перанесці шлюб. Але граф і гэтым разам нічога не пачуў і не прачнуўся. Разбіла прынцэса апошні арэх, у якім сядзела мініяцюрная жанчына, якая шыла сукню. І зноў нарачоная графа згадзілася перанесці шлюб.

Раніцой жа гэтага самага дня слуга графа спытаўся, што за спевы і плач чуюцца з ягонай спачывальні вось ужо дзве ночы.

— Я нічога не чую, — адказаў граф. — Табе, пэўна, усё падалося.

— А вы не піце сёння ўвечары віно і адкладзіце ўбок падушку, — параіў слуга, — тады вы таксама пачуеце тое, што чую я.

Граф так і зрабіў. Ноччу прыйшла прынцэса і заспела сваю сумную песню. Пачуўшы яе, граф падхапіўся. Яны абняліся і граф расказаў, што яго зачаравала прыгожая вядзьмарка, але прынцэса і гэтым разам разбіла чары.

Наступным днём прынцэса пабралася з графам, а вядзьмарка, спалохаўшыся, збегла з краіны. Вось так скончыліся прыгоды прыгожай каралеўскай дачкі і Чорнага Быка Нэраўэйскага.

**Пераклаў АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**

 

## ІКОНА БОЖАЙ МАЦІ „СКОРАПАСЛУШНІЦА"



Арыгінал іконы знаходзіцца ў грэчаскім манастыры Дахіяр на Святой Гары Афон. Праўдападобна напісана яна была ў X стагоддзі. Яе назва спалучаецца з такім вось зрадэннем. Ікона знаходзілася ў нішы перад уваходам у манастырскую трапезную (сталовую). Перад іконай часта праходжваўся трапезар Ніл з запаленай лучынай, дым якой закапціў твар Багародзіцы. Аднойчы манах пачуў голас, які сказаў, каб ён больш не праходзіў з запаленым дрэвам міма іконы. Ніл спачатку спалохаўся, але потым падумаў, што гэтае сказаў нехта з манаскай брацііі і далей рабіў сваё. Праз нейкі час зноў раздаўся голас, прагучэлі падобныя словы, і Ніл аслеп. Толькі тады ён зразумеў, што не выканаў ён волі Прасвятой Дзевы Марыі. У роспачы манах вырашыў астацца перад іконай і маліцца дагэтуль, пакуль зрок яму не вернецца. У тым часе перад іконай павесілі нязгасную лампадку, а дзверы ў трапезную замуравалі, ствараючы такім чынам часоўню. Аднойчы, калі манах Ніл са слязамі ў вачах маліўся перад іконай, пачуў голас Багародзіцы, якая заявіла, што ягоная малітва прынята Ёю і ў той жа момант яму вярнулася здольнасць бачыць. Прасвятая Дзева сказала, што ён апынуўся пад Яе пакровам і аховай, а сваю ікону загадала назваць „Скорапаслушніца" таму, што ўсіх, хто будзе прыходзіць да яе з гарачай малітвай Яна выслухае і абдорыць Сваёй ласкаю. З гэтай іконы былі спісаны многія копіі, сярод якіх і былі цудатворныя, так як і сам арыгінал.

Памяць іконы Божай Маці „Скорапаслушніца" ўшаноўваем 22 лістапада (9.11 па старому стылю).

С. Н.

# НАШЫ КАРАНІ

## LIX. ПРЫ БАЦЬКУ І СЫНЕ

У сваёй вандроўцы па мінулых стагоддзях мы амаль незаўважальна ўвайшлі ў эпоху панавання каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх Зыгмунта I Старога (1506-1548) і яго сына Зыгмунта Аўгуста (1530-1572). Уладаранне гэтых апошніх нашчадкаў Якава-Ягайлы-Уладзіслава працягвалася 66 гадоў і ў гісторыі Польшчы і Вялікага княства Беларуска-Літоўскага займела назву Зыгмунтавых часоў. Фактычна ж гэта было Адраджэнне, Рэнесанс — „залатая эпоха" ў гаспадарчым і культурным жыцці ўсіх зямель і народаў, што жылі пад гэтымі ўладарамі.

Таксама для развіцця Праваслаўя і праваслаўнай культуры тады настала прыхільная пара. Перш за ўсё адзначалася яна не толькі талерантнасцю, але нават і спагадлівасцю да Праваслаўнае Царквы з боку абодвух каралёў. Зыгмунт Стары часта станавіўся ў яе абарону, напрыклад, калі даведаўся, што віцебскі ваявода, каталік Януш Кастэвіч праследуе мясцовае праваслаўнае духавенства, кароль у спецыяльным лісце загадаў яму „ні в чом бы есм церквам Божым и священником кривды не чинил" ды патрабаваў выправіць шкоду. Зыгмунт Стары выдатна ўзвысіў праваслаўных магнатаў і баярства, а славутага дзяржаўнага і царкоўнага дзеяча, праваслаўнага князя Канстанціна Астрожскага, які пры ім уцёк з маскоўскай няволі, насуперак усім ранейшым законам, паводле якіх ваяводам троцкім не мог быць праваслаўны, кароль усё ж князя Астрожскага паставіў троцкім ваяводам і ўчыніў першай пасля сябе і каралевы асобай у княстве. Дзякуючы каралеўскай падтрымцы на мітраполічы пасад быў узведзены і атрымаў патрыяршае бласлаўленне выдатны царкоўны дзеяч уладыка Іосіф II Солтан, дзякуючы каралеўскай прыхільнасці ён правёў аздараўляючую царкоўнае жыццё рэформу, склікаў два памесныя саборы, паклапаціўся пра кананізацыю беларускага святога Елісея Лаўрышаўскага і здзейсніў шэраг іншых пачынаў на карысць Царквы, пра якія мы ўжо згадвалі. Гэта ж за панавання Зыгмунта Старога быў складзены і ўведзены ў карыстанне „Статут Вялікага княства Літоўскага" — першы збор законаў у тагачаснай Еўропе (1529 г.). Гэты ж кароль выдаў Георгію Ф. Скарыне ахоўную грамату, у якой, між іншым, гаварылася: „Не смейце наогул умешвацца ў яго справы, якія б ні былі яны важныя ці нязначныя, учыняць яму якое-небудзь насілле ці арыштоўваць або затрымоўваць яго або прымушаць..."(1522).

Пасля смерці мітрапаліта Іосіфа II Солтана за згодай Зыгмунта Старога ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі быў пастаўлены ў 1522 г. і атрымаў бласлаўленне патрыярха канстанцінопальскага архіепіскап полацкі Іосіф III. Як сцвярджае гісторык, архіепіскап Афанасій: „Пра мітрапаліта Іосіфа III нават уніяцкія і езуіцкія пісьменнікі выказваліся як аб схізматыку, які не жадаў нават і згадваць пра унію". Не жадалі слухаць пра унію і сам кароль ды яго сын.

Немалы ўплыў на адносіны дзяржавы да Праваслаўнай Царквы мела каралева Бона, жонка караля Зыгмунта Старога і маці Зыгмунта II Аўгуста. Каралева, выхаваная ў той частцы Італіі, дзе жыло многа праваслаўнага насельніцтва, пераважна грэчаскага паходжання, дзе дзейнічала шмат праваслаўнага духавенства і красаваліся велічныя праваслаўныя храмы, яна ўплывала на фармаванне талерантных адносін да праваслаўных з боку мужа і сына. Сама ж каралева Бона, між іншым, клапацілася пра тое, каб у мястэчках і гарадах, што складалі яе ўласнасць, заўсёды былі на роўных правах два храмы: касцёл і царква, не супрацівілася яна і пабудове пратэстанцкіх збораў. За прыкладам каралевы ішлі магнаты і баярства. Пасля смерці ўладыкі Іосіфа III у 1534 г. па пратэкцыі каралевы Боны ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі быў пастаўлены епіскап Макарый, які перад 40 гадамі прыбыў з вялікай княгіняй Галенай з Масквы і быў яе духоўнікам. Уніяты потым пісалі пра яго: „цвёрды, непахісны схізматык", гэта значыць: верны Праваслаўю.

Зыгмунт II Аўгуст яшчэ як вялікі князь літоўскі глыбока цікавіўся праваслаўем, акружаўся праваслаўнымі князямі, між іншым, не здрадзіўшымі яшчэ тады праваслаўю Радзівіламі, і па яго загаду ў яго любімай рэзідэнцыі Кнышыне, на Беласточчыне, красавалася праваслаўная царква, праваслаўны храм быў таксама і на замку ў Тыкоціне, дзе часта кароль прабываў. У адным з захаваных у Супрасльскім манастыры летапісаў да нас дайшоў такі вось запіс: „У 1544 годзе, 16 верасня, у нядзелю, у памяць велікамучаніцы Яўфіміі Усяхвальнае, Зыгмунт Аўгуст наведаў Дом Багародзіцы (*г.зн. Свята-Благавешчанскую царкву — МГ*) манастыра Супрасльскага з многімі вяльможамі сваімі дзеля таго, каб пазнаёміцца з храмам. Слухаў літургічныя спевы ў святой прасветлай царкве Багародзіцы ад пачатку і да канца, ва ўнутры алтара быў і на святой трапезе, святыя Евангеллі, святыя Крыжы і свяшчэнныя начынні агледзеў і па манастыры пахадзіў і ў трапезнай быў і міласціну ўбогім даў. І зноў, і зноў сардэчна і пакорліва выказваў удзячнасць Багародзіцы..."

Неабходна памятаць, што іменна кароль Зыгмунт Аўгуст на Гарадзенскім сойме ў 1568 г. аб'явіў поўнае раўнапраўе на ўсе часы ўсіх хрысціянскіх веравызнанняў.

У тым часе ў Беларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім) было больш за 50 праваслаўных манастыроў, значыць у Зыгмунтавы часы прыбыло іх аж 20, у сталічнай Вільні і яе прадмесцях іх было 12, а ў суседняй з намі Гародні — 6.

Вось чаму польскія гісторыкі — а раней і ў большасці цяпер былі імі і застаюцца каталіцкія фанатыкі — фальшавалі і фальшуюць залатыя Зыгмунтавы часы, аблілі і абліваюць надалей брудам каралеву Бону і яе сына вялікага князя і караля Зыгмунта II Аўгуста, не скупіліся і не скупяцца сёння на чорныя паклёпніцтвы на караля і вялікага князя Зыгмунта Старога.

МІКОЛА ГАЙДУК

*З МАЙГО ПАНАДВОРКА*

## УСЕ СВЯТЫЯ

*Зачем мне эти розы --*
*Они меня не веселят.*
*Зачем мне ваши слёзы --*
*Они меня не воскресят...*

Такія словы я прачытаў на адным надмагільным помніку ў Беластоку на Дайлідах. У дзень Усіх Святых я пайшоў на могільнік у Міхалове, пакланіцца сваім продкам і знаёмым. Многа хрызантэмаў і зніч, вельмі прыгожа. Шкада, што нашыя бацькі і дзяды не бачаць, як дбаем мы пра памяць пра іх.

У Міхалове побач праваслаўных могілак ёсць яшчэ іншае месца вечнага спачынку. Гэта былыя нямецкія могілкі. Да вайны ў Міхалове жылі немцы-евангелісты, была іхняя кірха (сёння на тым месцы стаіць школа) і могільнік ля вуліцы Фабрычнай. Цяпер гоман на гэтым месцы -- тут прафесіянальная школа. Ці на гэтых могілках запаліў хто-небудзь свечку? Так, запаліў. Жыве яшчэ пакаленне, якое шануе памяць папярэднікаў; якое памятае. Калісьці гэтыя могілкі былі самымі прыгожымі ў Міхалове, а цяпер там нічога -- ні крыжа, ні магілкі, усё гладка зраўнялі.

Падышоў я да аднае магілкі, дзе ні руж, ні слёз. Гэта магіла скрыта забітага чалавека, які быў віноўнікам ў тым, што... працаваў у млыне, узважваў збожжа і муку. Забілі яго "хлопцы з лесу". Ніхто не бачыў гэтых "герояў", стралялі з-за вугла. Забілі яго на вазе, што давала яму хлеб і жыццё. На яго магіле не гарэла ў гэты дзень свечка. Нікога на свеце не пакінуў.

ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР

## НЕПАДАЛЁК СТАРАЖЫТНАГА СУРАЖА

Рэлігійнае шанаванне святой Параскевы Сербскай пашырана не толькі ў паўднёвай Еўропе, асабліва ў Румыніі, дзе знаходзяцца яе святыя мошчы. Да гэтай манашкі XI ст. звяртаюцца ў малітвах і ўсходнія славяне. На Беласточчыне памяць св. Параскевы Сербскай асабліва ўшаноўваецца ў Сямяцічах і Кленіках, а таксама ў Канцавізне — маленькай вёсачцы, распаложанай пры Суражы, старажытным горадзе на Нарве. Большасць жыхароў сяла складваюць праваслаўныя беларусы, прыхаджане царквы ў Кажанах.

Сураж, на жаль, ужо даўно страціў свой беларускі характар. З разбурэння царквы ў міжваенным перыядзе адышла адсюль наглядная памяць аб Праваслаўі. І толькі Канцавізна далей сведчыць спрадвечную Праўду аб гэтай зямлі, наперакор цярпенням, якія прыйшлося перажываць яе жыхарам.

Даўняю традыцыяй, штогод у дзень св. Параскевы ў выбраным доме ў вёсцы служыцца Абедня. Сёлета ізноў, 27 кастрычніка ў Канцавізну прыбыў а. Іаан Карпюк з Кажан, каб разам з жыхарамі прынесці ахвяру Усявышняму.

М. С.

## САБОР АРХІСТРАТЭГА МІХАЛА І ІНШЫХ СІЛ НЯБЕСНЫХ

21 лістапада (8 па ст. стылю) ушаноўваем памяць Арханёла Міхала і іншых анёлаў, гэта значыць, добрых духаў. Пра тое, што спачатку Бог стварыў нябачны свет — духовы, значыць, анёлаў, напамінаюць першыя словы Біблii (I Майс., 1:1). Хрысціянская вера вучыць нас, што апрача даступнага зроку фізічнага свету існуе таксама другі, нябачны для нас, свет — духовы. Само слова Анёл (гр. angelos) абазначае пасланніка, вешчуна. Іх галоўная задача — служба Богу, усслаўлянне і выкананне Яго волі. Звычайнаму чалавеку часта цяжка зразумець існаванне гэтага нябачнага свету, а тым больш пабачыць яго. Памятаць аднак трэба аб многіх прыкладах са Свяшчэннага Пісання (Лук., 2:13; Эфес., 1:21; Данііл, 10:13 або Апак., 12:7-8) або з жыціяў святых угоднікаў Божых (Прападобны Серафім Сароўскі, Прападобны Сяргей Раданежскі і многія іншыя). Калі анёлы паказваюцца людзям, яны не выглядаюць так, як у сапраўднасці, але прымаюць такі выгляд, каб людзі маглі іх пабачыць — так гаворыць Святы Іаан Дамаскін, а пацвярджаюць гэтае словы Старога Запавету (Тов., 12:19). Анёлы хаця і духова мацнейшыя за людзей, то аднак не ведаюць яны будучыні і не могуць чыніць цудаў без Божай волі.



С. Н.



 




### ПАНЯДЗЕЛАК, 22 ЛІСТАПАДА

8.00 Праграма перадач. 8.05 Пад купалам Сусвету. 8.15 „Пушча". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 10.25 Тэлевізійны акцёрскі клуб. 11.25 „Ружовы Вецер", „Стэп". Дак. фільмы. 11.55 „І дапаможа нам музыка..." 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 Да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Дакументальны фільм „Брэсцкая крэпасць". 13.35 „Брава, Альбер Лаліш". Маст. фільм. 15.10 Мультфільмы. 15.30 Праграма перадач. 15.35 Тэлебачанне — школе. Мая радзіма — Беларусь. 4-ы клас. Полацкае княства — Першая дзяржава на беларускай зямлі. 15.55 „ Пара нам у оперу". Музычны фільм. 16.55 Спасціжэнне ісціны. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 „Партрэт на фоне часу". Сумеснае вытворчае прадпрыемства „Тэста" (Гродна). Сустрэча праз год. 18.40 „Што на свеце пачуваецца...". 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.10 „Фенікс". Тэлесерыял. 22.10 НІКа. 22.25 „Агонь у начы..." Аўтарская песня Ю. Бельскага. 23.10 „Штовечар — анекдот...".

### АЎТОРАК, 23 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „У пошуках цёплага дома". Дак. фільм. 7.35 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 ТБ — школе. Мая радзіма — Беларусь. 4-ы клас (паўтор). 8.20 „Фенікс". Тэлесерыял. 9.20 „Бярозавыя галасы". Дак. фільм. 10.20 „Порах". Маст. фільм. 11.55 „І дапаможа нам музыка..." 12.30 Навіны (з сурдаперакладам) 12.40 Варыяцыі на балетныя тэмы. Фільм-канцэрт. 13.10 „Казка аб цудоўнай Айсулу". Маст. фільм. 14.25 „НОВ і К" — Топ-10. 15.25 Тэлебіржа. 15.30 ТБ — школе. Прыродазнаўства. 3-ці клас. 15.55 Вершы юных паэтаў. 16.20 Самотнік. Дак. фільм. 16.45 „Пікі-жаўтароцік". Мульт фільм. 17.00 Здароўе. „Хто вы, доктар Сайкоў?" 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 18.30 „Карамболь". Ток-шоў. 19.05 Мост. Культурна-асветніцкая праграма. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.10 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІК-а, Воднае пола, „Штовечар — анекдот".

### СЕРАДА, 24 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Смех пад сонцам". Дак. фільм. 8.00 ТБ — школе. Прыродазнаўства. 3-ці клас (паўтор). 8.20 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 8.45 „Ніжагародскія лыжачнікі". Фільм-канцэрт. 9.15 Тэлевізійны дом кіно. 10.05 „Манна жыцця". Навукова-папулярны фільм. 10.55. „Разам весела ісці..." Фільм-канцэрт. 11.20 „Свая бацькаўшчына". Лаўрэат дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Вячаслаў Адамчык. 12.05 „І дапаможа нам музыка..." 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Саўраска". Тэлевізійны мастацкі фільм. 13.45 „Па шчупаковаму загаду". Мультфільм. 14.00 „Сумаваць не трэба". Фільм-канцэрт. 14.30 „Процістаянне". Маст. фільм. 1-я серыя. 15.40 Відзьма-нявідзьма. 16.40 Гаспадар. Клопаты работнікаў лясмной гаспадаркі Брэсцкай вобласці. 17.10 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 17.15 Абласныя навіны (Гомель). 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Адкрыццё міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі. Трансляцыя з Віцебска. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — „Белыя ночы". Маст. фільм, НІКа, Воднае пола.

### ЧАЦВЕР, 25 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Дзядзечкаў сон". Маст. фільм. 1-я серыя. 9.15 „Сказ пра рысь". Дак. фільм. 10.05 „Дзядзечкаў сон". 2-я серыя. 12.00 „Палесся мілае дзіця...". Памяці паэтэсы Я. Янішчыц. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Талінскі заапарк", „Птушыная восень". Дак. Фільмы. 13.20 „Процістаянне". Маст. фільм. 2-я серыя. 15.20 Для школьнікаў. „Бардаўскі круг". Музычная праграма. 16.10 Тэлебіржа. 16.20 ТБ — школе. Геаграфія Беларусі. 9-ы клас. Насельніцтва Беларусі. 16.50 „Майстэрня". Польскія сустрэчы. 17.20 „Сакрэты прыгажосці". Анонс. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Зачытайце маё пісьмо. 18.15 Здароўе. Тэлечасопіс. 19.00 Лаўрэат міжнароднага фестывалю тэлевізійных праграм і фільмаў. „Сава Мінервы прыручана". 19.25 Дзяржстрах прапануе. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.10 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІКа, Воднае пола.

### ПЯТНІЦА, 26 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Дак. фільмы. 8.00 ТБ — школе. Геаграфія. 9-ы клас (паўтор). 8.30 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 8.55 „Балет Ігара Майсеева". Фільм-канцэрт. 10.15 Кампазітары Беларусі: Віктар Войцік. 11.30 „Лясная сімфонія". Тэлефільм. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Музычная гісторыя". Музычны фільм. 14.00 Дак. фільмы. 14.40 „Процістаянне". Маст. фільм. 3-я серыя. 15.50 ПІК — відэаканал для падлеткаў. 16.40 Прэм'ера кнігі. Ніна Маеўская. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Эпіцэнтр. Крэдытна-фінансавая палітыка. 18.55 „Слухаючы Моцарта". Прэм'ера відэафільма. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІКа і маст. фільм „Сем крыкаў у акіяне".

### СУБОТА, 27 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Сем крыкаў у акіяне". Маст. фільм. 8.55 Урокі здароўя. 9.10 Паказвае Гродна. Мастацка-публіцыстычная праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Кампазітары Беларусі — М. Літвін. Харавы цыкл. 10.45 Дакументальныя фільмы студыі „Летапіс". 11.35 „Сёння ў нашай хаце свята". Саўтас „Заказельскі". 12.05 Паэтычная гасцёўня. Вершы Людмілы Рублеўскай. 12.20 Тэлевізійны дом кіно. 12.55 Хрысціянская праграма. 13.40 „Мой маленькі поні". Мультфільм (ЗША). 14.05 Маладзечна-93. Прэм'ера вакальнага цыкла З. Зарыцкага на вершы Н. Гілевіча „Мара Скарыны". 15.05 Студыя „Тэлесябрына". 16.30 „Пояс чэмпіёна". Міжнародны турнір кікбоксінгу. 17.15 „Залатая дзесятка". Конкурс маладых палітыкаў. 18.40 „НОВ і К" — топ-10. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Стваральнік палітычных вобразаў". Маст. фільм (ЗША). 22.20 Каскад: кантакт, інфармацыя, рэклама. 22.35 НіКа. 22.50 Відзьма-нявідзьма. 23.50 „Штовечар — анекдот...".

### НЯДЗЕЛЯ, 28 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік Рык Рэнер. 7.50 „Белыя ночы". Маст. фільм. 9.15 „Сіняя світа". Спектакль паводле беларускіх народных казак. 10.15 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 11.10 „І тое ж у душы маёй каханне..." Спявае Ф. Севасц'янаў. 11.30 Таямніца. Праграма для сям'і. 12.10 „Пачатак". Беларуская асацыяцыя прафесійнага боксу. Прамая лінія. 13.00 Закрыццё міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі. Трансляцыя з Віцебска. 15.10 Існасць. Духоўна-рэлігійная праграма. 16.00 „Прыгоды капітана Урунгеля. Мультфільм. 10-я серыя. 16.10 „Далоў камерцыю на любоўным фронце". Маст. фільм. 17.30 „Гінес-шоў" (Вялікабрытанія, ЗША). Частка 5-я. 18.00 Радавод. „Чачэрскі куфэрак". 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 „Войскі асобага прызначэння". Тэлевізійны фільм (Аўстралія). 5-я серыя. 20.35 „Гавары смела". Маст. фільм (Італія). 21.55 „Штовечар — анекдот..."

## НОВЫЯ ВОДАПРАВОДЫ

— У мінулым годзе ў **Гайнаўскай** гміне пабудавалі водаправоды ў Новым Беразове, Чыжыках і Трывежы. Сёлета здалі ў карыстанне водаправоды ў Дубічах-Асочных, Хітрай, Пуцісках і Катоўцы, — паінфармавала нас войт гэтай гміны **Вольга Рыгаровіч**. — Прадбачваецца, што да канца гэтага года дачакаюцца гэтай выгады ў доме і ў аборы ў Ліпінах, Пасталове і Скрыплеве. Затым — неяк па чарзе — будуць будаваць водаправоды ды падключаць ваду з крана ў вёсках: Васількова, Дубіны і Навасады.

Зараз заканчваюць пабудову гідрафорні ў Арэшкаве. У 1994 годзе да водаправода будуць падключаны наступныя вёскі: Арэшкава, Лазіцы, Барок, Пасечнікі, Дубінская Ферма, Пераходы (Звадзецкія), Смольны Садок, Барысаўка і Рэпіска.

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ХЛЕБНА-ПІЎНЫ СОУС**

Прадукты:
*2 шклянкі булёну з мяса ці рыбы,*
*1 цыбуліна,*
*1 пятрушка,*
*1 шклянка піва,*
*2-3 лусты чорнага хлеба,*
*мускатны арэх (мушкаталовая галка),*
*2-3 гваздзікі,*
*некалькі зярнят перцу,*
*соль.*

Дробна нарэзаныя цыбулю і пятрушку зварыць у шклянцы піва (варыць, пакуль палавіна вадкасці не выварыцца). Дадаць раскрышаны хлеб, пару лыжак алею, прыправы, булён. Варыць на малым агні, пакуль соус не стане густы.

Падаваць да страў з рыбы.

**ГАСПАДЫНЯ**




Дарагі Астроне! У мяне бяды поўная хата. Жывем удваіх з мужам. Я сама хворая, але я ўжо і пагадзілася з тым. Муж таксама слабога здароўя, але вось нядаўна ён моцна захварэў на сэрца. Крыху лепш ужо сябе адчувае, але слабы вельмі. Я моцна непакоюся, а тут яшчэ сон прысніўся, па-мойму, дык хіба ён абазначае нешта кепскае.

Сніцца мне, што я ў Нямеччыне на прымусовых работах (у сапраўднасці я была вывезена на прымусовыя работы). Прыходзіць мой брат-нябожчык і гаворыць, што забярэ мяне адтуль. Я здзіўлена, кажу, што немагчыма гэта. А ён кажа: пойдзем са мной!

Я пайшла развітацца з гаспадарамі-немцамі. Гаспадар і гаспадыня ў чорным адзенні. Я падышла да іх, развіталася і выйшла. Але брата ўжо не ўбачыла.

Яшчэ прысніўся другі сон. Быццам я выходжу замуж. Пашыла сабе сама шлюбную сукенку, яна ружовая, доўгая, з распоркамі па баках. Я ў ёй. Стаіць многа хлопцаў, а я не ведаю, хто з іх — мой жаніх.

**Настуся**

Даражэнькая Настуся! Твае сны — як адзін, так і другі — нядобрыя. Абазначаюць яны нейкія вялікія непрыемнасці. У першым сне табе прыснілася, што ты ў Нямеччыне, на прымусовых работах, на якія немцы вывозілі нашых людзей у час вайны. А вайна, яна заўсёды абазначае непрыемнасць або наогул нейкія цяжкасці ў большых ці меншых жыццёвых справах. А яшчэ ж і гаспадары твае былі ў чорным, ды і брат прапаў. Можа быць гэта нейкая страта.

Што датычыцца другога сну, дык і ён прадвяшчае табе непрыемнасць, а мо, канкрэтней, сварку. Выходзіць замуж у сне — нядобра.

**АСТРОН**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. прымусовае зборышча ў адным месцы, 8. азіяцкая краіна, 9. перадсмяротны стан арганізма, 10. каспійская сталіца, 11. старажытная манета, 13. сталіца Бірмы, 15. рэзкія, вострыя праявы хваробы, пачуцця, 16, 17. жаночае імя, 22. яго сталіцай Брыджтаўн, 23. тое, на чым апіраюцца, 27. паклон жанчыны з прысяданнем, 29. на футбольным стадыёне, 30. аўтамабіль для перавозкі асоб, грузаў, 31. доўгі ўчастак зямлі, 32, 33. класік беларускай літаратуры, 34. ясны круг вакол галавы.

**Вертыкальна:** 1. мера часу, 2. раптоўнае зніжэнне сардэчнай дзейнасці, 4. уладанне графа, 5. мікранезійская дзяржава, 6. другі склон, 7. памешчыцкі наглядчык, 12. узор, шаблон, 14. практыкант у судзе або адвакатуры, 16. не мае голасу, 17. адкладаецца рыбамі, 18. кілаграм, 19. напр. Кіліманджара, 21. вывучае нябесныя целы, 24. частка псалтыра, 25. падзел на часткі, 26. сталіца Афганістана, 27. гучны смех, 28. месца за вёскай, дзе пасецца жывёла.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 40 н-ра:**
**Гарызантальна:** плюс, Вайда, Енісей, Этна, Каліш, накаут, Гусоўскі, шабаш, караліна, прафесар, Осака, Хірасіма, галеча, Айова, джаз, сварка, горла, рэха.
**Вертыкальна:** галава, адліга, літроўка, сеанс, віскі, Генуя, Шушкевіч, Аклахома, шэпт, брат, віна, жара, Арыстарх, Сайгон, каваль, халва, хеўра, радар.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові̌ч (галоўны рэдактар), Ян Мардань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## СМЕХАТЭРАПІЯ

**Новы тэрмас**

Тэрмас, які не б'ецца (і не мае аналагаў у свеце), распрацаваны на Чарапавецкім металургічным заводзе. Пры выпрабаваннях на моцнасць з космасу на Зямлю былі скінуты два тэрмасы: чарапавецкі і кітайскі. Чарапавецкі ўпаў на тайгу, паваліў дрэвы ў радыусе 5 кіламетраў, але не разбіўся. Толькі корак крыху аплавіўся, калі тэрмас уваходзіў у шчыльныя слаі атмасферы. Кітайскі ж хлам нават не даляцеў да зямлі.

**„Ціхае" паляванне**

На пяць кіламетраў пацягнуў грыб, які ўбачылі адначасна вясковы настаўнік Ілля Глузко і інжынер шляхоў зносін таварыш Шранк. Два дні ела грыб-велікан сям'я Глузко. Ад атрыманых ран Шранк памёр на месцы знаходкі.

**Навіны гандлю**

У магазінах Менска з'явілася ў продажы новая мадэль начнога свяцільніка, сканструяванага на аснове пагранічнага пражэктара. Плошча асвятлення — 2,5 трохвугольных кіламетра.

**Навука**

Вучоныя даказалі, што сабака Муму, якога ўтапіў Герасім, належала да пароды буль-буль-буль-тэр'ераў.

**Эксперыменты**

Пасля шматлікіх эксперыментаў шасцікласнік Андрэй М. прыйшоў да вываду: дажджавыя чарвякі ходзяць на рыбалку ўсяго адзін раз у жыцці.

**Палітыка**

Украінскі парламент нарэшце прыняў рашэнне аб канчатковым аддзяленні Крыма. Узрыўныя работы пачаліся ўжо.

(Звязда)

## ТОСТЫ

У Афрыцы жыве вельмі многа дзікіх звяроў, якія могуць з'есці, забадаць, укусіць і т. п. І ёсць таксама многа ядавітых змей. Калі змяя ўкусіць за руку, то можна высмактаць яд і выплюнуць, калі ўкусіць у нагу, то можна неяк дацягнуцца да ранкі і зрабіць тое ж самае. Але калі змяя ўкусіць у задніцу...

Дык вып'ем жа за тых сяброў, якія не пакінуць нас у цяжкую хвіліну!

* * *

— За вашае здароўе і за нашае багацце!






Малюнак Я. Бусла

## МІЖ НАМІ

### ФЭЛІК

Ішоў п'яны Фэлік дадому, і кожнаму сустрэчнаму казаў:

— Так трэба рабіць, каб было добра. Трэба жонку і дзяцей шанаваць, бо гэта далікатныя істоты, як кветачкі. Калі іх прыціснеш, то гібеюць, сохнуць. Не трэба іх лаяць, не то ўжо што біць!..

І гэта ўсё тады, як жонку з дзецьмі, пасля пабояў, выгнаў з дому.

— Вось які дабрадзей! — адварочваюцца ад Фэліка знаёмыя, а незнаёмыя ківаюць са зразуменнем.

### СКЛЕРОЗ

Прыехаў да Віці гарадскі швагер. Пакуль Віціна жонка рыхтавала стол, мужчыны заняліся размовай.

— Цяпер у горадзе не вельмі добра, га? — пачаў Віця.

— Чаму — не вельмі? Намнога лепш, чым тут у вас. Скончыў працу і рабі што хочаш. Хочаш — ляжы, хочаш — хадзі.

— Але ў вас мяса дарагое. Што есці?

— У нашым узросце лепш мясам не карыстацца. Старым мяса не трэба. Ад мяса склероз.

Калі Зіна запрасіла за стол, Андрэй налягаў чамусьці на мясныя вырабы, а на гуркі ды капусту нават не глянуў.

Па першай чарцы неяк сорамна было пытаць Віцю пра кулінарны густ сваяка, але пасля пятай запытаўся:

— А чаму ж ты, браце, так за мяса ўзяўся, ад яго ж склероз? Паеш лепш гурочкаў.

— Ат, склероз! Гародніну я ем дома!

АЎРОРА

## СЕНТЭНЦЫІ

Вецер думкі нясе сняжынкі слоў, якія сцелюцца ў покрыва мовы.

* * *

Казлом фанабэрыцца той, у каго рогі слімака, слімаком прыкідваецца той, у каго рогі казла.

* * *

Найважнейшы першы крок, бо кожны наступны — з яго.

* * *

Долата ўяўлення высякае форму статуі.

* * *

Утопія гэтак салодкая, ажно атрутная.

БАРЫС РУСКО

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры)*

### ВОДНЫЯ ІСТОТЫ

**Пан Гувняж**

З пэўным дапушчэннем гэтую істоту таксама можна лічыць воднай — калі дапусціць, што фекаліі збольшага вада. Пан Гувняж дагэтуль зафіксаваны ў адзінкавым асобніку, але з'яўляецца ў розных месцах, бо ўсе сістэмы каналізацыі злучаюцца ў адзіны балтыйска-чарнаморскі калектар.

Вельмі павучальная гісторыя здарылася летась у Друзгеніках (памылковая літоўская назва — Друскенінкай) у прыбіральні-ратондзе былога лецішча маршалка Язэпа Пілсудскага. Гэтая прыбіральня яшчэ з часоў ІІ Рэчыпаспалітай карысталася нядобрай славай, бо там збіраліся выключна прадстаўнікі сексуальных і нацыянальных меншасцяў. Прыстойнаму чалавеку было гідка заходзіць туды, дзе ў смуродных кабінках здзяйсняліся гомасексуальныя акты, а ў гэты час нецярплівцы, спраўляючы вялікую патрэбу ў пісуары, лаялі педэрастаў па-польску і па-расейску, бо прыбіральня знаходзіцца непадалёк ад польска-рускага рынку. Але тыя, хто ўсё ж такі траплялі ў кабінку, часам падвяргаліся дзікаму і, здавалася, бессэнсоўнаму здзеку: ніхто з пацярпелых не мог рацыянальна вытлумачыць, як і чаму анальная адтуліна аказвалася залепленай сургучнай пячаткай з надпісам: „PAN GÓWNIARZ". Нарэшце, адзін камерсант з Прусаў здолеў злавіць зламысніка за руку, але, намацаўшы нешта слізкае і валасатае, азірнуўся: доўгая, як шланг рука карычневага колеру цягнулася проста з адтуліны унітаза. Адзінае, што здолеў зрабіць пераляканы гандляр — выхапіць пячатку.

Пасля гэтага здарэння прыбіральню на ўсялякі выпадак зачынілі на капітальны рамонт, усталяваўшы аўтаматычную сістэму вадаспуска, пасля чаго здань знікла і здзекі скончыліся. Так сталыя наведвальнікі прыбіральні эмпірычным шляхам даведаліся, што Пан Гувняж карае толькі тых, хто не змывае за сабой...

Ходзяць чуткі, што цяпер Пан Гувняж аб'явіўся ў менскім Саюзе пісьменнікаў...

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
ФРАНЦІШАК ХЛУС
і МАРЦІН ЮР




Дарагое Сэрцайка! Я заўважыла ў апошні час, што ў тваёй рубрыцы сяброўкі пішуць пра сяброўак. Я б таксама хацела нешта падобнае зрабіць, але не ўпэўнена, ці раблю добра. Крытыкаваць кагосьці — лёгка. А тая ж сяброўка, пра якую буду пісаць, магла б і пра мяне напісаць нешта непрыхільнае. Пацяшаю сябе тым, што яна „Ніву" не чытае, а твой адказ будзе накіраваны мне, бо інакш яна б магла на мяне абразіцца.

Дык вось, сяброўцы, пра якую пішу, вядзецца надта добра. Можна сказаць, што ёй у жыцці пашанцавала. У бацькоў была адна, усё для яе, ды і замуж выйшла за прыстойнага і багатага, а і цяпер хлопцы бегаюць за ёю, як і раней.

Трэба сказаць, што і рабочая яна. Усё ў яе руках гарыць. Паробіць умомант парадкі ў хаце, наварыць і памые, дзяцей дагледзіць — і ўжо некуды пабеглі з мужам, дзяцей яе бацькам падкінуўшы.

А тыя даглядаюць іх з вялікай ахвотай, бо гэта сёння для іх — адзіная радасць. І дапамагаюць дачцэ не толькі працай, але таксама да сёння і грашыма.

Можа і з таго вынікаюць, як я мяркую, нетактоўныя паводзіны гэтай маёй сяброўкі. Як толькі паяўляецца яна ў кампаніі, усе ўжо ведаюць: зараз будзе хваліцца. Няма справы, у якой, на яе думку, не была б яна найлепшая: найпрыгажэйшая, найразумнейшая, найлепш апранутая, у яе найпрыстайнейшы муж, наймілейшыя дзеці, усе хлопцы надалей млеюць за ёю. Ну, і навошта яна пра гэта без канца паўтарае?! Усе ж і так гэта ведаюць, і няма ніякай патрэбы яшчэ і яшчэ раз падкрэсліваць гэта.

Я заўважыла, што найбольш людзей дражніць, калі пачынае яна хваліцца сваім багаццем. Ах, якая яна зарадная — усё ўмее купіць танней, як дапамагаюць ім то яе бацькі, то свёкры, якія цацкі сучасныя купляе яна дзецям, як з заграніцы валачэ прыгожую вопратку...

Сяброўкі слухаюць, разявіўшы раты, і аж дух ім займае. Вядома ж, як цяжка зарабіць той дадатковы грош, каб купіць нейкую анучу. Заробкаў ледзь на жыццё хапае, а яна тут людзей такім дастаткам дражніць!..

Трэба сказаць, што сярод маіх сяброўак няма людзей, якія б мелі краму ці нейкую прыватную фірму. Усе на жыццё зарабляюць цяжка, хаця ўсе яны добрасумленныя і нават адукаваныя людзі. А сяброўка нідзе асабліва не вучылася ў той час, калі мы начамі ўбівалі сабе ў галаву навуку, ды і цяпер нават не думае працаваць, бо навошта ёй гэта...

І вось таму я пішу табе, Сэрцайка, што мяне гэтая сяброўка пачынае памаленьку таксама ірытаваць. Ці наогул выпадае сябе так паводзіць у кампаніі?

Ліда

Ліда! Ні ў якім выпадку не выпадае. У кампаніі лепш за ўсё гаварыць на агульныя тэмы, расказваць анекдоты. Нават палітычныя тэмы могуць аказацца небяспечнымі, бо людзі па-рознаму глядзяць на тыя самыя справы, а ў выніку можа ўзнікнуць непрыемная дыскусія.

Што датычыць паводзін тваёй сяброўкі, дык у яе зусім няма ніякага такту. У кампаніі наогул нельга займаць увагу людзей сваёй асобай. А што ўжо гаварыць, калі нехта без перапынку хваліцца. Ніколі не прыйшло ёй у галаву, што камусьці можа быць прыкра ад яе гаворкі? А справа ж у тым, каб у кампаніі нікога не пакрыўдзіць, каб не гаварыць такое, ад чаго ў чалавека, якому пашанцавала ў жыцці менш, застанецца горкі асадак.

Шкада, што твая сяброўка не чытае „Ніву".

СЭРЦАЙКА